ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

# Каталіцкі ВЕСНІК

№4 (13) красавік 2012 год

ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ

Кошт свабодны

Біскуп Уладзіслаў Блін удзяляе сакрамант Хросту падчас Пасхальнай Вігіліі ў Віцебскай катэдры.

## Хрыстус уваскрос!

*Хрыстус уваскрос! Сапраўды ўваскрос! Ён жыве сярод нас у Божым слове і сакрамантах. Чалавек патрабуе Бога. Ён – надзея і сэнс нашага жыцця!*

*Таму выйдзі на спатканне са сваім Богам. Вазьмі з сабой найлепшага сябра, бабулю, дзядулю, маму і тату, сястру і брата. Ён пераменіць нашае жыццё. Напоўніць нашыя сэрцы любоўю і радасцю. Хрыстус уваскрос, каб і мы з Ім калісьці ўваскрэслі. Аллелюя!*

*Біскуп Віцебскі Уладзіслаў Блін*

### Мы – адна каманда

Інтэрв'ю з кс. Андрэем Аніскевічам чытайце на стар. 8



### П'е сын. Што рабіць?

Пра праблемы алкагалізму разважае кс. Андрэй Бочар MS на стар. 13



### Лынтупы

Пра містэрыю пакутаў Хрыста чытайце на стар. 4



## Арцыбіскуп Клаўдыа Гуджэроці:
## “Смерць пераможана назаўжды, за цярпеннем не застаецца апошняе слова”



**Апостальскі нунцый у Беларусі арцыбіскуп Клаўдыа Гуджэроці ў інтэрв'ю для каталіцкага партала Catholic.by падзяліўся велікоднымі віншаваннямі і ўспамінам пра візіт у Віцебск.**

**– Ваша Эксцэленцыя, якія ўражанні пакінула ў Вас наведванне Віцебска?**

– Мяне моцна ўразіла ветлівасць ва ўстановах і прыязнасць людзей. Я ўбачыў, што наш Касцёл актыўны і арганізаваны, што ён рашуча імкнецца ахапіць усіх католікаў, якім яшчэ цяжка аднесці сябе да нейкай пэўнай парафіі або супольнасці. Гэты Касцёл маладыі поўны энтузіязму. У вельмі братэрскай атмасферы прайшла сустрэча з праваслаўным Архіепіскапам, сардэчнымі былі сустрэчы са старшынёй аблвыканкама і мэрам. Хвалюючым для мяне было наведванне Дома-музея Марка Шагала, у якім адчуваецца гістарычны подых першых ягоных гадоў.

Прэс-канферэнцыя таксама атрымалася даволі цёплай і сяброўскай, хоць пазней я і заўважыў, што некаторыя выказаныя мною думкі былі перададзеныя, так бы мовіць, у крыху адвольнай інтэрпрэтацыі, не цалкам дакладна.

*Працяг на стар.2*

### Падпішыся на Добрую Вестку!

**Дарагія сябры!** На “Каталіцкі Веснік” можна падпісацца. Кошт падпіскі на месяц – **1520 рублёў.**

Паштальён прынясе Вам газету на наступны дзень пасля яе выхаду з друкарні. “Каталіцкі Веснік” – гэта газета Добрай Навіны. Аформіўшы падпіску для сябе або для сваіх блізкіх, Вы дапамагаеце нам абвяшчаць Евангелле.

**Стань апосталам! Падпішыся! Падары Добрую Вестку людзям!**

**Падпісны індэкс – 63783.**

### Хто стварыў свет?

Пра эвалюцыю піша кс. Андрэй Рылка на стар. 12





# Святая Імша Usus Antiquior

**Упершыню ў гэтым годзе ў касцёле св. Барбары ў Віцебску службы Святога Пасхальнага Трыдуума былі адпраўлены не толькі паводле Імшала Паўла VI, але і паводле Імшала благаслаўлёнага Яна XXIII. Па просьбе вернікаў, прыхільнікаў Рымскай Літургіі па старым звычаі (Usus Antiquior, так званай Трыдэнцкай Імшы), гэтыя службы былі праведзены пробашчам парафіі а. Міхалам Ермашкевічам OP.**

**Кацярына Лаўрыненка**

Аднаўленне цэлебрацыі Святой Імшы паводле Імшала 1962 г. у касцёле св. Барбары адбылося чатыры гады таму, у 2007 г., пасля выдання Бэнэдыктам XVI motu proprio "Summorum Pontificum", у якім сказана, што "дазволена адпраўляць Ахвяру Імшы паводле тыповага выдання Рымскага Імшала, абнародаванага бласлаўлёным Папам Янам XXIII у 1962 г. і ніколі не адмененым, як надзвычайную форму Літургіі Касцёла". Гэты дакумент прадугледжваў адпраўленне ў звычайнай парафіі службы паводле старога звычаю (Usus Antiquior) у будні дні і адну ў нядзелі, за выключэннем Святога Пасхальнага Трыдуума. 30 красавіка 2011 г. выйшла інструкцыя Папскай Камісіі "Ecclesiae Dei" "Universae Ecclesia" па выкананні motu proprio "Summorum Pontificum", у якой звярталася ўвага на правільную інтэрпрэтацыю папскага дакумента. Згодна з інструкцыяй, пашыралася магчымасць служэння традыцыйнай літургіі, у прыватнасці, дазвалялася цэлебрацыя службаў Святога Пасхальнага Трыдуума паводле Імшала 1962 г., не выключаючы магчымасці паўторнага здзяйснення гэтых службаў у тым самым касцёле.

Такім чынам, ад гэтага Вялікадня Святая Імша паводле Імшала бл. Яна XXIII у касцёле святой Барбары адпраўляецца ва ўсе святы і ўрачыстасці на працягу цэлага літургічнага года. Святая Імша ў нядзелю а 15.00 заўсёды адпраўляецца ў інтэнцыі Папы Бэнэдыкта XVI і віцебскага біскупа Уладзіслава Бліна. У будния дні гэтая Імша служыцца ў суботу і панядзелак а 18.00. Дадатковая Імша паводле Імшала бласлаў-----лёнага Яна XXIII адпраўляецца ў квартальныя дні. Дзеля таго, каб вернікі маглі плённа ўдзельнічаць у гэтай Імшы, у парафіі была праведзена адпаведная катэхеза, а таксама падрыхтаваныя брашуры для службы "Ordo Missae".

Запрашаем усіх ахвотных прыняць удзел у Святой Імшы паводле старога звычаю. Прыходзьце ў касцёл Св. Барбары ў Віцебску па вул. Ленінградскай, 27.

На здымку: святар адпраўляе Святую Імшу паводле старога звычаю.

## Са Святам Вялікадня!

**Дарагія сябры! Віншуем Вас са Святам Уваскрасення Езуса Хрыста! Жадаем шмат Божай ласкі і Божага бласлаўлення! Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.**

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Станіслаў Вышадка** (в. Завараты, Глыбоцкі р-н), **Ірына Круцько** (в. Ломашы, Глыбоцкі р-н), **Тэрэза Парфяновіч** (г. Браслаў), **Антаніна Палінская** (г. Віцебск), **Баляслава Барэйка** (в. Барсукі, Докшыцкі р-н), **Ядвіга Пупкевіч** (в. Барсукі, Докшыцкі р-н), **Лія Мацюшонак** (в. Прошкава, Глыбоцкі р-н), **Вікторыя Свідэрская** (в. Коўшалева, Шаркаўшчынскі р-н), **Саламея Мацукевіч** (в. Зарэчча, Браслаўскі р-н), **Генавэфа Дубіловіч** (в. Муляры, Пастаўскі р-н), **Яніна Сінкевіч** (в. Муляры, Пастаўскі р-н), **Вімоня Барткевіч** (в. Муляры, Пастаўскі р-н), **Эдуарда Нагановіч** (в. Муляры, Пастаўскі р-н), **Крысціна Букатава** (в. Муляры, Пастаўскі р-н), **Антаніна Дарашкевіч** (в. Янковічы, Пастаўскі р-н), **Даната Унтан** (в. Янковічы, Пастаўскі р-н), **Тэрэза Пылінская** (в. Цыбуты, Пастаўскі р-н), **Таццяна Рамейка** (в. Муляры, Пастаўскі р-н), **Аліцыя Трафімовіч** (г. Паставы).

**Са Святам! Хрыстус уваскрос! Сапраўды ўваскрос!**

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

## Арцыбіскуп Клаўдыа Гуджэроці:
# "Смерць пераможана назаўжды, за цярпеннем не застаецца апошняе слова"

*Працяг. Пачатак на стар.1*

**– Вы бралі ўдзел у літургічных цэлебрацыях Вялікага тыдня ў мінскім архікатэдральным касцёле. Якія Вашыя адчуванні?**

– Я вельмі глыбока ўражаны колькасцю прысутных вернікаў і іх малітоўнай стараннасцю. Гэта штосьці такое, чаго мы, на жаль, не прызвычаіліся ўжо бачыць у іншых месцах. Мне прыгадалася дзяцінства. Людзі дазваляюць, каб таямніца Божай любові па-сапраўднаму ахапіла іх.

**– Вы з'яўляецеся прадстаўніком Папы ў Беларусі. Калі б Вам давялося паведаміць яму пра тое, што ўбачылі за гэты тыдзень, што б Вы яму сказалі?**

– Я нічога не змог бы яму сказаць: гэта неапісальныя ўражанні. Мне б толькі хацелася, каб ён хоць хвілінку пабыў тут. Тады не спатрэбіліся б ніякія каментары. Ён атрымаў бы вялікую радасць ад удзелу ў такой сардэчнай і чулай малітве, якая суцешыла б яго ў шматлікіх перажываннях.

**— Што асабліваг Вы хацелі б пажадаць беларусам на Вялікдзень?**

— Я раблю гэта з вялікім задавальненнем, асабліва, звяртаючыся да тых, хто разам з намі верыць у Езуса Хрыста. Браты і сёстры, смерць пераможана назаўжды, за цярпеннем не застаецца апошняе слова. Няхай жа авалодае намі гэтая надзея, якой ніхто не можа нас пазбавіць. Хрыстус уваскрос!

Крыніца: *catholic.by*

# Эўхарыстычная сям'я

**У 2005 годзе ў нашую полацкую парафію Пан Бог накіраваў на службу сястру- эўхарыстку Ірэну Сапун. Аднойчы падчас сустрэчы яна прапанавала стварыць супольнасць "Эўхарыстычная сям'я".**

**Ірына Праскурніна**

Шмат тады хто з энтузіязмам адгукнуўся на гэтую прапанову, і ў выніку сабралася такіх "ініцыятыўных" 25 чалавек. Потым некаторыя пакінулі нас. Але сястра Ірэна сказала: "Не хвалюйцеся! Адны пакінуць – прыйдуць іншыя". Сапраўды, дзякуй Богу, нашая "Эўхарыстычная сям'я" не распалася, а, можна сказаць, умацавалася. Цяпер у нашай супольнасці 20 чалавек.

Галоўнай задачай для нас з'яўляецца маліцца за людзей, залежных ад алкаголю. У нас ёсць спіс з канкрэтнымі асобамі – ахвярамі гэтай хваробы, за якіх мы молімся навэнну да Божай Міласэрнасці. У гэты спіс алкаголікаў увайшлі людзі з нашай парафіі, а таксама блізкія і знаёмыя нашых парафіянаў. На вялікі жаль, спіс папаўняецца, але ёсць і радасныя вынікі ад нашых малітваў. Некалькі чалавек ужо імкнецца да нармальнага жыцця, яны перастаюць піць і прытым без усялякіх кадзіраванняў. Як бачым, нашыя просьбы да Бога пачутыя Ім.

У нашай супольнасці людзі рознага ўзросту: ад 25 да 60 гадоў. Гэта, на жаль, толькі жанчыны. Але мы спадзяёмся, што кола аднадумцаў будзе павялічвацца. Верым таксама, што і прадстаўнікі "моцнай" паловы далучацца да нас.

Акрамя малітвы, што ёсць, безумоўна, галоўным, мы актыўна ўдзельнічаем у розных імпрэзах, якія праводзяць сёстры-эўхарысткі. Ніводнае калядаванне не праходзіць без удзелу дзяўчат з "Эўхарыстычнай сям'і". Запомнілася адно з такіх калядаванняў, калі мы наведвалі хворых людзей. Гэта для іх было вялікай нечаканасцю, але мы бачылі цёплыя ўсмешкі ад нашых віншаванняў. Напрыканцы абмяняліся падарункамі.

Наша "Эўхарыстычная сям'я" вельмі б хацела пазнаёміцца з такімі ж рухамі з іншых парафій. Магчыма, пасля гэтай публікацыі хтосьці адгукнецца. Будзем вельмі-вельмі рады знаёмству і запрашаем усіх ахвотных уступіць у супольнасць, якая малітвамі і справамі дапамагае людзям. А сёння ўсе людзі свету патрабуюць Божай Міласэрнасці.

**Тэлефон для кантактаў: +375336976134.**

Расоны

## Урокі жыцця, урокі веры

Прачытала ў "Каталіцкім Весніку" "Слова пра маці" і ўзгадала сваю матулю. З мамай я расла да 13 гадоў, потым быў дзіцячы дом, а пасля – самастойнае жыццё. Маёй маме выпаў цяжкі лёс, дрэннае замужжа. Яна верыла ў Бога. Пасля таго, як бацька пакінуў нас, яна цяжка захварэла, хадзіла згорбленая, не магла працаваць. Але трымала гаспадарку, вялікі агарод. Дапамагаў мой дзядуля (бацькаў бацька). Калі мне было 11 гадоў, дзядуля раптоўна памёр. Яшчэ праз год я трапіла ў дзіцячы дом.

Калі жыла з мамай, хадзіла ў касцёл за 7 км то з дзядулем, то з суседкай. Любіла перамалёўваць кветкі з хустак на паперу. Мама прасіла: "Павесь каля абразоў, каб было пекна". Мама заўсёды казала: "Не рабі нічога дрэннага, Божае вока ўсё бачыць". І я, лежачы на ложку, шукала на столі Божае вока. Яшчэ мама навучала: "Не бяры ніколі нічога чужога, бо страціш сваё ўдвая". Памятаю, як мы з мамай хадзілі на Ружанец у адну хату, дзе збіраліся жанчыны з наваколля. У мяне былі нарывы па ўсіх нагах, мне было балюча кленчыць, а мама сказала: "Кленчы, будзем прасіць у Маці Божай, нашай Мамачкі, каб цябе вылечыла".

З дзіцячага дома на канікулы мяне брала бацькава сястра. Набожная была жанчына. Яе, маёй цёткі Ядзі, ужо няма на гэтым свеце. Я вельмі ўдзячная ёй, што яна адкрыла мне вочы, зразумела растлумачыла, як Бог дапамагае. Гэтай Божай дапамогай карыстаюся ў сваёй сям'і і дапамагаю іншым у жыцці. Як толькі ў нас зарэгістравалі парафію, кожную нядзелю хаджу на Імшу і на святы. Дапамагаю чым магу пры касцёле. За ўсё дзякую Пану Богу.

*Чэслава Васільева*

# Канікулы ў касцёле



**Яўгенія Ізотава**

**Ці можна цікава правесці канікулы ў касцёле?**

Канешне, да такой формы адпачынку, як "Канікулы з Богам" улетку, напэўна, усе мы ўжо прызвычаіліся. Аднак пры парафіі св. Барбары ў Віцебску вырашылі паспрабаваць новы від працы – лагер дзённага знаходжання. З 26 па 30 сакавіка, падчас школьных веснавых канікулаў, у Віцебску праходзіў "Тыдзень з Богам" для дзяцей парафіі. Штодня дзеці прыходзілі ў касцёл, дзе на працягу некалькіх гадзін цікава праводзілі час разам. Тут былі і духоўныя заняткі, і рухавыя гульні, і шпацыры ды экскурсіі.

"Тыдзень з Богам" прысвячаўся тэме Святых Сакрамантаў, пра якія мы і размаўлялі на працягу пяці дзён.

Падчас нашага тыднёвага адпачынку мы паспелі шмат: наведалі ў Краязнаўчым музеі выставу "Старажытны Віцебск", пабывалі ў планетарыі, правялі конкурс творчых прац, зробленых сваімі рукамі, конкурс на лепшы касцюм, выставу малюнкаў. І, канешне, згодна з назвай нашага летніка кожны дзень мы былі з Богам: штодзённая малітва, заняткі на духоўныя тэмы, удзел у Св. Імшы дазволілі ўдзельнікам не толькі лепш пазнаёміцца адно з адным і яшчэ больш з'яднацца, але і паглыбіць сваё сяброўства і сувязь з Богам.

Сустракаліся мы ў касцёле кожную раніцу, а пасля заняткаў дзеці накіроўваліся дадому.

Дарэчы, такая форма дзіцячага адпачынку праходзіць пры касцёле св. Барбары ў Віцебску не ўпершыню – ужо ў трэці раз.

# Маці ў малітве

**У парафіі Св. Яна Хрысціцеля ў аграгарадку Камаі па блаславенні кс. Яцэка Хутмана чацвёрты год дзейнічае супольнасць жанчын "Маці ў малітве". У яе ўваходзіць каля дзясятка верніц розных узростаў і прафесій. Збіраемся ў хаце Генавефы Дубіловіч у в. Муляры.**

Пачалося ўсё з таго, што многія жанчыны запісаліся ў Рыцарства Беззаганнай Марыі з цэнтрам у касцёле в. Удзела Глыбоцкага раёна. Дзякуючы айцам-францішканам гэтага кляштара атрымалі пасведчанні і медалікі. Падчас экскурсіі ў касцёле набылі кніжачку "Маці ў малітве". Як быццам сама Маці Божая паклала нам яе ў рукі. Пагаварылі аб праблемах дзяцей і моладзі ў сем'ях і ў свеце і вырашылі арганізавацца на малітву.

Атрымалі дазвол пробашча і кожную нядзелю пачалі збірацца на малітву а 15-й гадзіне. Афармілі алтарык, у цэнтры якога паставілі абраз – копію галоўнага абраза нашага касцёла "Маці Божая Чанстахоўская". Выбралі малітвы з кніжачкі і раздрукавалі іх. Кожны ўдзельнік чытае сваю малітву. Звяртаемся з просьбамі да Св. Духа, Пана Езуса, Панны Марыі, Св. Юзафа, прысвячаем ім адпаведныя малітвы, спяваем прыгожыя песні. Чытаем урывак са Св. Пісання і праводзім разважанні па ім.

Кожны можа расказаць сваю гісторыю, падзяліцца ўражаннямі, атрымаць адказ на пытанне. Адмаўляем адну таямніцу Ружанца, далучаем свае пацеры да малітваў супольнасцей "Маці ў малітве" ва ўсім свеце. Молімся не толькі за сваіх дзяцей і ўнукаў, а і за дзяцей і моладзь нашай Беларусі і ўсяго свету, асабліва за дзяцей-сірот і за тых, за каго ніхто не моліцца. Молімся і за святароў, далучаем сваю малітву да малітваў іх маці. Кожны ахвотны можа прыйсці і прыняць удзел у малітве: і сталыя жанчыны, і маладыя дзяўчаты.

Малітва не займае шмат часу, але праходзіць цікава. Прымаў удзел у пасяджэнні і маліўся разам з намі мадэратар апостальскага руху сем'яў Віцебскай дыяцэзіі кс. Алег Півавар, калі праводзіў рэкалекцыі для сем'яў у Камайскім касцёле. Малітва яму вельмі спадабалася, і ён моцна падтрымаў нас духоўна і маральна, за што мы шчыра яму ўдзячныя.

Нашы малітвы прымеркаваныя да каталіцкіх святаў, да вызначаных Касцёлам перыядаў года. Заканчваецца малітва асабістымі падзякамі Пану Богу.

Затым п'ём гарбату, абмяркоўваем навіны, дзелімся жыццёвымі навыкамі, кулінарнымі сакрэтамі. Свой ліст хачу закончыць паэтычнымі радкамі:

*Дзякуем, Божа, за тое, што ўсталі,*
*За тое, што ўбачылі дзень.*
*За сонца, за дождж, за родныя далі,*
*За працу, за хлеб на стале.*

*Дзякуем, Божа, за дзетак, за ўнукаў,*
*За наш беларускі народ,*
*За нашу Радзіму,*
*За добрыя справы,*
*За сонечных дзён карагод.*

*Дзякуем, Божа, за нашыя храмы,*
*За тое, што ёсць яны ў нас.*
*За святароў і за мужнасць іх працы,*
*За светлы і радасны час.*

Мы віншуем усіх святароў нашай дыяцэзіі на чале з біскупам Уладзіславам Блінам з Днём святарства і святам Уваскрасення Хрыста. Жадаем моцнага здароўя, радасці, поспехаў ва ўсіх справах, Божай ласкі і апекі, усіх зямных даброт.

*З павагай і ўдзячнасцю ад імя супольнасці "Маці ў малітве"*
***Генавефа Дубіловіч,***
*в. Муляры*

# Настаўнік = вучань

**З дзецьмі працую ўжо 32-і год. Вучу, выхоўваю. А таксама ўвесь гэты час вучуся сама – з кніг, з жыцця, ад дзяцей. Мае вучні вельмі розныя: спакойныя і разважлівыя, дураслівыя, жыццярадасныя, а некаторыя задумлівыя, рэдка ўсміхаюцца. Я з удзячнасцю і цеплынёй успамінаю ўсіх маіх выхаванцаў. Думаю, што дрэнных дзяцей не бывае. Проста кожнага неабходна пастарацца зразумець.**

**Алена Пажога**

Напэўна, нават пры самых паважлівых адносінах паміж малодшымі і старэйшымі зусім пазбегнуць канфліктаў немагчыма. Але там, дзе дарослыя прыслухоўваюцца да дзяцей, улічваюць іх прапановы (разумныя), канфліктаў значна менш. Вельмі важна правільна паводзіць сябе падчас канфліктнай сітуацыі. Раптоўныя рашэнні звычайна не самыя лепшыя. Не спяшайцеся казаць "так" або "не", узважвайце свае словы. Праяўляйце спакой і вытрымку. Хоць гэта вельмі складана.

Дарэчы, вучні – адлюстраванне сваіх настаўнікаў. Кожны выхавальнік у нейкай ступені пераносіць на выхаванцаў характэрныя рысы сваёй асобы – і станоўчыя, і адмоўныя. Таму кожнаму настаўніку неабходная самакрытычнасць. Не трэба баяцца рабіць памылкі, але трэба прызнаваць іх. І пры любых абставінах старацца заставацца самім сабой. Дзеці вельмі чуйна на ўсё рэагуюць, заўсёды адчуваюць фальш. Мы сваім прыкладам, сваім ладам жыцця фарміруем маральныя прынцыпы і звычкі дзяцей. Яны вырастуць такімі, якімі мы жадаем іх бачыць, калі будзем з дзецьмі цярплівымі, самакрытычнымі, добрымі і чалавечнымі. Вучу сваіх дзяцей кіравацца ў жыцці "залатым правілам": рабі другому тое, што хочаш, каб рабілі табе.

Важна не забываць, што вучань адначасова знаходзіцца пад маральным уздзеяннем педагогаў і бацькоў. Таму настаўнік і бацькі павінны дапаўняць адно аднаго, кіравацца адзінымі патрабаваннямі. Дасягнуць поспехаў у выхаванні дзяцей можна толькі ў тым выпадку, калі паміж настаўнікам і бацькамі існуе цесны кантакт і адносіны паміж імі будуюцца на ўзаемным даверы і добразычлівасці.

# Галгофа на лынтупскіх пагорках





**Больш за тры сотні вернікаў прынялі ўдзел у Крыжовым шляху ў мястэчку Лынтупы, якое знаходзіцца ў Пастаўскім раёне пры мяжы з Літвой.**

■ **Кастусь Шыталь**, *тэкст і фота*

Традыцыя інсцэнізацыі Крыжовага шляху сягае сваімі каранямі ў Сярэднявечча. Містэрыі, якія прадстаўлялі шлях Хрыста на Галгофу, можна было пабачыць на вуліцах еўрапейскіх гарадоў у ХІІ стагоддзі. У Беларусі такія набажэнствы штогод адбываюцца ў Мінску – на Кальварыі і Залатой Горцы, а таксама ў Гародні. У Лынтупах містэрыя Пакутаў Гасподніх праводзіцца на працягу апошніх пяці гадоў.

“Містэрыя – гэта больш чым тэатр. Містэрыя – на мяжы паміж тэатрам і літургіяй. Акцёры не размаўляюць, яны прадстаўляюць тое, што адбывалася. Такім чынам, увесь час захоўваецца атмасфера таямніцы, чагосьці глыбокага, да чаго трэба даспець, каб зразумець”, – кажа лынтупскі пробашч кс. Павел Кнурэк.

Набажэнства адбылося 1 красавіка, у Вербную Нядзелю. А 16-й гадзіне блізу трох сотняў чалавек сабраліся на плошчы каля касцёла і рушылі па вуліцы мястэчка. Вялікі драўляны крыж наперадзе калоны неслі па чарзе і старыя, і малыя, і мужчыны, і жанчыны. Падчас працэсіі іграла адмыслова падрыхтаваная музыка, якая настройвала на адпаведнае ўспрыманне драматычных падзей.

На стацыях крыж узнімалі, а людзі станавіліся на калені. Гучалі малітоўныя разважанні, загадзя запісаныя на аўдыя. Тэма сёлетняга Крыжовага шляху – перапрашэнне Бога за здраду сапраўднай веры праз ужыванне разнастайнай варажбы ды магіі. “Хочам данесці да людзей, што небяспека прывязанасці да рознай д’ябальшчыны вельмі сур’ёзная”, – тлумачыць кс. Павел.

За мястэчкам пачынаецца тэатралізаваная частка Крыжовага шляху. Крыж перадаюць мужчынам, апранутым у вопратку рымскіх жаўнераў. Акцёры паказваюць – крок за крокам – пакутлівую дарогу Хрыста на Галгофу.

Вось Ён суцяшае ерусалімскіх жанчын, якія гучна галосяць. Вось чарговы раз падае пад ударамі жаўнераў і зноў падымаецца. Вось дайшлі да Галгофы і здзіраюць адзенне. Вось Яго ўзнімаюць, параненага і прыбітага да крыжа, на самай вяршыні пагорка. Пад крыжам заходзяцца плачам жанчыны, а потым цела здымаюць і загортваюць у палатно...

Традыцыйна набажэнства Крыжовага шляху адлюстроўвае толькі Хрыстовы пакуты і заканчваецца пахаваннем. Але на самай справе ўсё не скончылася на пахаванні. Пасля было Уваскрасенне. Каб гэта падкрэсліць, былі вынесены і пастаўлены пад крыжам абраз Уваскрослага Хрыста.

Крыжовы шлях скончыўся прамаўленнем Сімвала веры і публічным выначэннем ад Злога і яго справаў. Ксёндз Павел Кнурэк асвяціў крапельніцы – невялікія ёмістасці для асвечанай вады, якія ён прапанаваў павесіць пры дзвярах кожнай хаты.

# Імша Хрызма ў Віцебску







**У Вялікую Сераду адбылася Святая Імша Хрызма ў Віцебску. Узначаліў яе арцыбіскуп Клаўдыа Гуджэроці, Апостальскі Нунцый у Беларусі.**

■ **кс. Віктар Місевіч**

На малітоўную сустрэчу з'ехаліся святары і законныя сёстры з усёй Віцебскай дыяцэзіі. Біскуп Уладзіслаў Блін прывітаў высокага госця і запрасіў узначаліць Эўхарыстыю. Арцыбіскуп Клаўдыа Гуджэроці, прамаўляючы Божае слова, заахвоціў святароў быць добрым водарам Хрыста. Асаблівым чынам ён звярнуў увагу на сяброўскую ўзаемную дапамогу ў святарстве. Нунцый падзякаваў таксама святарам з Віцебсккай дыяцэзіі, якія дапамагаюць яму выконваць абавязкі ў Нунцыятуры. У ходзе Святой Імшы былі асвечаны святыя алеі, якія выкарыстоўваюцца падчас удзялення сакрамантаў намашчэння хворых, хросту, бежмавання і святарства.

На заканчэнне набажэнства наступнікі апосталаў атрымалі кветкі з нагоды Дня Святарства і пажаданні ад святароў і сясцёр Віцебскай дыяцэзіі.

# Прэс-канферэнцыя з Апостальскім нунцыем у Віцебску



**3 – 4 красавіка 2012 г. Апостальскі нунцый у Беларусі арцыбіскуп Клаўдыа Гуджэроці пабываў з візітам у Віцебску. 3 красавіка іерарх сустрэўся з кіраўнікам вобласці, з мэрам горада і епіскапам Беларускай Праваслаўнай Царквы, наведаў дом-музей Марка Шагала. 4 красавіка ў дыяцэзіяльнай курыі адбылася прэс-канферэнцыя з удзелам нунцыя і біскупа ВіцебскагаУладзіслава Бліна.**

паводле Catholic.by **кс. Юрый Марціновіч**

На пачатку прэс-канферэнцыі кс. Віктар Місевіч, адказны за СМІ ў Віцебскай дыяцэзіі, нагадаў пра значэнне Пасхальнага Трыдуума, у які Касцёл уступае, рыхтуючыся да ўрачыстасці Уваскрасення Пана.

Падчас сустрэчы з журналістамі арцыбіскуп Гуджэроці адзначыў, што вельмі ўзрушаны асаблівасцямі Віцебскай дыяцэзіі, якая «ўзяла пачатак з нуля, але вынікі і дасягненні ўжо сёння вельмі відавочныя».

Кажучы пра беларускі народ, іерарх падкрэсліў, што гэта людзі, якія «адзначаюцца працавітасцю, дабрынёй і прастатой, а таксама вялікай цярплівасцю».

Прадстаўнік Папы паведаміў таксама, што працуе над падарункам для Віцебска. Нунцый выступіў з ініцыятывай арганізаваць выставу прац Марка Шагала з фондаў Ватыкана падчас сустрэчы з кіраўніцтвам Віцебскага аблвыканкама. Марк Шагал, паводле слоў арцыбіскупа, «вельмі любіў Віцебск, быў свядомым і адчуваў свае карані, быў вялікім мастаком хрысціянскіх святыняў».

Кажучы пра адносіны Касцёла і дзяржавы, нунцый адзначыў, што яны характарызуюцца «імкненнем да дыялогу, адкрытасцю і новымі ініцыятывамі». Арцыбіскуп праінфармаваў, што ў дадзены момант вядзецца праца над дакументам паміж Беларуссю і Ватыканам. Задачай жа Святога Пасада ў Беларусі з'яўляецца будаванне мастоў, патрэбных абодвум бакам. Іерарх дадаў, што, згодна з заданнем, атрыманым ад Папы, працуе «над тым, каб беларускі народ больш ведалі і шанавалі ў свеце».

Адказваючы на пытанне пра адносіны Касцёла да іншых канфесій, прадстаўнік Святога Айца падкрэсліў, што ў Беларусі існуюць братэрскія стасункі паміж каталікамі, праваслаўнымі і іншымі хрысціянскімі канфесіямі. Пра гэта сведчыць, напрыклад, візіт у лістападзе мінулага года ў нашу краіну кардынала Курта Коха, старшыні Папскай рады спрыяння хрысціянскаму адзінству, і яго ўдзел у канферэнцыі, прысвечанай праваслаўна-каталіцкаму дыялогу. «ДзяліцьХрыста — вялікі грэх, таму мы вельмі зацікаўленыя ў тым, каб не быць „антысведкамі“ хрысціянства», — дадаў арцыбіскуп.

Напрыканцы нунцый распавёў пра сябе. У прыватнасці,іерархпаведаміў, што служыць у Ватыкане з 1985 г. і з гэтага часу знаёмы з сітуацыяй у Касцёле на Усходзе. На завяршэнне прэс-канферэнцыі арцыбіскуп падзякаваў прадстаўнікам СМІ за іх працу і служэнне грамадству, а таксама падкрэсліў сваё пазітыўнае ўражанне ад Беларусі.



# Святар-легенда

**11 красавіка споўнілася 5 гадоў з таго часу, калі адышоў у Вечнасць ксёндз-марыянін Люцыян Паўлік. Гэты святар нарадзіўся ў Польшчы, але ўсё яго пастырскае служэнне прайшло ў Беларусі. Ён распачаў яго ў Друі ў 1942 г., аднак яно было перарванае ў 1950 г., калі святара асудзілі і саслалі ў сталінскія лагеры, як дарэчы, і амаль усіх каталіцкіх святароў у той час. Яму пашанцавала вярнуцца адтуль у 1956 г. Але працягваць душпастырскую працу ў Друі ксяндзу Паўліку МІС улады не дазволілі. Таму з 1957 г. жыццё святара было звязана з парафіяй у Задарожжы, дзе ён і правёў астатнія 50 гадоў свайго жыцця, аж да смерці ў 2007 г.**

**Кацярына Лаўрыненка**

ANKETA

АНКЕТА

для служителя религиозного культа

Настоятеля Друйского Римско-Католического Костела

Место для фотокарточки

1. Фамилия Павлик имя Луциян отчество Юльянович
1. Пол муж. 2. Год и месяц рождения 1913 года 21 Декабря
3. Место рождения по существующему административному делению Вочька-Вишневская, Седлецк. уезд, Люблинской обл.
5. Национальность Поляк 6. Подданство СССР
7. Образование Римско-Католическая Духовная Семинария

| Подробное название учебного заведения /академия, семинария, школы и проч./ и его местонахождение | Название факультета или отделения | Дата /м-ц год/ Вступлен. | Дата /м-ц год/ Окончания или ухода | Окончил или нет | Если не окончил, то с какого курса ушел | Какую ученую специальность получил в результате окончан. заведен. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Гимназия в Варшаве | | 1928 | 1934 | да | | |
| Римско-Кат. Дух. Семинария в Вильне | | 1936 | 1942 | да | | |

7. Духовный сан, когда, где и кем рукоположен Ксендз 1942 года Вильно, Епископ Рейнисом
8. Был-ли за границей нет /да, нет/

| Дата /м-ц год/ с какого | по какое время | /указать город, место/ | Цель поездки /пребывания/ |
|---|---|---|---|
| | | | |

Аднак ксёндз застаўся ў памяці як ў яго ўдзячных парафіянаў, так і ва ўсіх тых, каму давялося ў свой час сутыкацца з гэтым святаром, каму ён самаахвярна нёс душпастырскую паслугу. Засталіся, аднак, і іншыя сведчанні жыцця і дзейнасці ксяндза Паўліка – гэта дакументы ў архівах Беларусі. У савецкі час Каталіцкі Касцёл знаходзіўся пад пільнай увагай уладаў, кожны крок святароў адсочваўся і, зразумела, занатоўваўся. Вось гэтыя даступныя на сённяшні момант дакументы і апавядаюць нам аб розных здарэннях з жыцця ксяндза Паўліка МІС.



Хочацца расказаць пра адзін эпізод служэння ксяндза Люцыяна Паўліка МІС. Так, на Тройцу ў 1966 г., 29 мая, у шасці касцёлах сённяшняй Віцебскай дыяцэзіі (тады гэта была тэрыторыя Віленскай архідыяцэзіі), у тым ліку і ў Задарожскім, дзе тады пробашчам служыў ксёндз Люцыян, вернікам быў удзелены сакрамант Бежмавання. Здаецца, нічога дзіўнага. Аднак гэты сакрамант быў удзелены вернікам менавіта самімі святарамі. Справа ў тым, што ў пасляваенны перыяд на тэрыторыі Беларусі не засталося ніводнага біскупа, а менавіта біскуп удзяляе гэты сакрамант. Таму доўгі час моладзь у Беларусі (тады, вядома, у БССР) дзеля прыняцця гэтага сакраманту хадзіла ці ездзіла ў касцёлы Літвы і Латвіі, паколькі мяжы не існавала. А вось біскупы ў гэтых тады савецкіх рэспубліках былі. Улічваючы сітуацыю ў БССР, святары і атрымалі дазвол на ўдзяленне гэтага сакраманту.

29 мая 1966 г. у Задарожскім касцёле ксёндз Паўлік МІС удзяліў сакрамант Бежмавання амаль 200 дзяўчатам і хлопцам ва ўзросце 18-25 гадоў. Дарэчы, савецкае заканадаўства аб культах забаранялa прымаць удзел у Імшы непаўналетнім, забаранялася і святарам удзяляць ім святыя сакраманты. За парушэнне гэтага заканадаўства святары караліся так званым “зняццем з рэгістрацыі”, пазней – сур’ёзнымі штрафамі. Гэтым тлумачыцца, чаму сярод бежмаваных не было непаўналетніх.

Зразумела, што такі факт вельмі зацікавіў упаўнаважанага Савета ў справах рэлігій пры Савеце Міністраў СССР па Віцебскай вобласці (так называлася пасада прадстаўніка дадзенага Савета, галоўнай функцыяй якога ў савецкі час быў кантроль над рэлігійнымі інстытутамі). Ён пачаў высвятляць усе акалічнасці і, больш за тое, стаў сачыць, каб у далейшым ксяндзы не ўдзялялі гэты сакрамант моладзі.

Увага ўпаўнаважанага была такой надакучлівай, што ў 1968 г. на пытанне аб бежмаванні ксёндз Паўлік МІС не вытрымаў і сказаў: ”Чаму ўлады ўмешваюцца ва ўнутраную дзейнасць парафій? Якая ж тут свабода сумлення, калі ўлады цікавяцца і забараняюць рабіць святару тое, што яму трэба паводле канонаў Касцёла?”

Пан Бог даў ксяндзу Люцыяну Паўліку МІС аж 93 гады зямнога жыцця. Ён дачакаўся таго часу, калі спыніліся ганенні на Касцёл і ў Беларусі з’явіліся біскупы. І вельмі цешыўся, што настаў такі момант, калі сакрамант Бежмавання моладзі ў Задарожскім касцёле ўдзяліў біскуп….



Автобиография. -14- 22 16

Павлик Луциан Юлянович сын крестьян Юльяна и Отилии урожд. Гузек родился 1913 года 21 декабря в деревни Вочька-Вишневска, Седлецкаго района Люблинской области. До 1928г. находился в деревне. В 1928 году вступил в гимназию в Варшаве. По окончании в 1934 году гимназии возвратился в сельское хозяйство. По двух годах в 1936г. вступил в Виленскую Римско-Католическую Духовную Семинарию, которую и окончил в 1942г. По окончании Духовной Семинарии был рукоположен в ксендзы. По рукоположении в 1942г. был назначен викарным при Друйском Римско-католич. костеле где работал по 1944г. В 1944г. был преведен на настоятеля Идолтовского Рим-католич. костела, и в 1945г. был из Идолты преведен на настоятеля Друйскаго Рим-католич. костела, где работает и в настоящее время

Кс. Л. Павлик.

Друя 22. X. 1945г.

-1-

**У артыкуле выкарыстаны здымкі дакументаў з Дзяржаўнага архіва Віцебскай вобласці.**

Добрая Вестка ў тваім доме! Каталіцкі ВЕСНІК №4(13) красавік 2012 г.

# МЫ – АДНА КАМАНДА!

*Гутарыў кс. Віктар Місевіч*




**На здымку:** ксёндз Андрэй Аніскевіч (стаіць трэці справа) разам з біскупам Уладзіславам Бліном і святарамі Віцебскай дыяцэзіі.

**У Каталіцкім Касцёле актыўна праводзіцца праца з моладдзю. Святары часта не толькі арганізоўваюць малітоўныя сустрэчы, але і праводзяць экскурсійныя пілігрымкі, а таксама ладзяць спартыўныя мерапрыемствы. Мы прапануем інтэрв'ю з кс. Андрэем Аніскевічам, пробашчам парафіі ў Лепелі. Кс. Андрэй – заснавальнік і трэнер мясцовай футбольнай каманды.**

**– Кс. Андрэй, у якім годзе паўстала ваша футбольная каманда?**

– Я хацеў бы зазначыць, што ў свой час шмат працаваў з моладдзю мой папярэднік, святой памяці кс. Генадзь Дамашка. Ён вельмі любіў футбол. Мне ж пашчасціла афіцыйна зарэгістраваць нашую парафіяльную каманду. Пачаткам можна лічыць 2006 год. Яе назва "Юнацтва. Святы Казімір". Існуюць тры ўзроставыя саставы. Гэта дзеці ад 9 гадоў да 13-ці, моладзь ад 14-ці да 17-ці гадоў. І самыя старэйшыя: ад 18-ці гадоў і вышэй. Усяго каля сарака чалавек.

**– За гэты час удалося дасягнуць якіх-небудзь поспехаў?**

– Мы прымаем удзел у розных турнірах: у чэмпіянаце раёна, у міжканфесійным чэмпіянаце Беларусі. Выязджаем за мяжу, пераважна ў Польшчу, і гуляем у рамках арганізаваных там парафіяд.* Ужо тры гады запар у міжканфесійным чэмпіянаце Беларусі сярод школьнікаў займаем першае месца.

**– А хто трэніруе "Юнацтва"?**

– Я сам займаюся гэтым. Таксама на раённых спаборніцтвах гуляю ў якасці галкіпера. Мяне вельмі радуе, што ў сёлетнім раённым чэмпіянаце мы ўвайшлі ў тройку самых моцных каманд з васямнаццаці прадстаўленых.

**– Скажыце, як спорт дапамагае Вам у працы з моладдзю?**

– Як пробашч я перакананы, што спорт вельмі моцна дапамагае ў евангелізацыі. Многія ў Лепелі праз футбол знайшлі сваю дарогу да Бога. Наглядны прыклад – наш семінарыст Руслан. Яго шлях да Езуса пачаўся менавіта праз гэтую гульню. Я назаўсёды запомню Вялікую Пятніцу таго года, калі мы толькі стварылі каманду. Усе юнакі прыйшлі ў касцёл і разам з парафіянамі прымалі ўдзел у набажэнстве. Гэта былі вельмі шчаслівыя хвіліны для мяне як душпастыра. Тады мае выхаванцы сказалі мне: "Ксёндз Андрэй, мы – адна каманда. Таму мы павінны быць разам і на полі, і ў касцёле".

**– Напэўна, Вы ўплываеце на іх праз свой аўтарытэт святара?**

– У камандзе "Юнацтва" ёсць свае прынцыпы. Ніхто не лаецца матам. Нават падчас раённага чэмпіянату нас адзначаюць за добрыя гульнявыя паводзіны. Гэтым мы яскрава адрозніваемся ад іншых. Хачу таксама зазначыць, што мы прымаем у каманду ўсіх, не гледзячы на сацыяльнае становішча ці нават на майстэрства гульні. Падчас чэмпіянатаў на поле выходзяць абсалютна ўсе, нават самыя слабыя. У юнакоў ёсць тады дадатковы матыў, каб больш займацца. Яны адчуваюць сябе адной супольнасцю. Гэта таксама мой прынцып. Ніхто не адседжваецца на лаве запасных.

**– Футбол – гэта пераважна занятак для юнакоў. А што наконт дзяўчат? Як яны сябе рэалізуюць у спартыўным плане ў лепельскай парафіі?**

– Вядома, мы гуляем і ў іншыя віды спорту. Моладзь і дзеці вельмі любяць баскетбол, валейбол. Кожныя канікулы разам ездзім на каньках. Ведаеце, дзеля гэтага я і сам навучыўся стаяць на лёдзе.

**– Я бачу, што на прыкладзе Вашай парафіі спраўджваецца выслоўе: "У здаровым целе – здаровы дух".**

– Сапраўды, гэта так. На кожнай футболцы у гульцоў змешчана эмблема агульнабеларускага чэмпіянату "Здаровая маладосць". Мы рэкламуем здаровы лад жыцця.

**– Што б Вы хацелі пажадаць нашым чытачам, асабліва маладым?**

– Ведаеце, калі я толькі стаў святаром, мне давялося пабываць на аўдыенцыі ў Папы. Святы Айцец Ян Павел II тады, звяртаючыся да прысутных святароў, сказаў, што тры рэчы могуць узмацніць любую супольнасць. Гэта малітва, праца і спорт. Ён заахвоціў нас прытрымлівацца гэтых прынцыпаў у працы з моладдзю, каб быць адной камандай. Таму і я сёння хацеў бы пажадаць нашым чытачам, каб будавалі моцную супольнасць у сям'і, у касцёле і ў сяброўстве. Няхай дапамагаюць ім у гэтым малітва, праца і здаровы лад жыцця.

*Парафіяда – адпачынковы спартыўны летнік для каталіцкай моладзі.




**На здымку:** футбольная каманда з парафіі ў Лепелі «Юнацтва. Святы Казімір».

## Конкурс для дзяцей!

Дарагія сябры! Гродзенская дыяцэзія арганізуе II Дыяцэзіяльны дзень дзіцяці. Адбудзецца ён 1 чэрвеня 2012 г. у парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Гродне. У сувязі з гэтым праводзіцца конкурс на тэму **"Хачу быць апосталам Езуса Хрыста!"**. Прыняць у ім удзел могуць усе дзеці школьнага ўзросту. Ідэя гэтага мерапрыемства заключаецца ў тым, каб перапісаць ад рукі Новы Запавет.

**Усім, хто прыме ўдзел у конкурсе, гарантаваныя прызы. Што трэба зрабіць?**

Неабходна патэлефанаваць да арганізатараў па пададзеных ніжэй тэлефонах або звярнуцца з электронным лістом. Трэба запытацца, які ўрывак можна перапісваць. Пісаць можна на любой мове. Пазваніць на нумар могуць бацькі, катэхеты або самі дзеці.

Перапісаны тэкст у выглядзе вялікай кнігі будзе прынесены да алтара падчас урачыстай святой Імшы 1 чэрвеня ў Гродне.

Конкурс "Хачу быць апосталам Езуса Хрыста" карыстаецца вялікай папулярнасцю сярод дзяцей Беларусі. Калі ласка, паспяшайцеся і патэлефануйце, каб Вам хапіла свабодных урыўкаў тэксту. Жадаем поспеху!

Для тых, хто любіць маляваць – таксама ёсць выдатная магчымасць паўдзельнічаць у конкурсе. Трэба намаляваць якую-небудзь сцэну з Бібліі.

**Умовы конкурсу малюнкаў:**

1. Малюем на паперы фарматам А4.
2. Малюем без дапамогі кагокольвечы, самастойна.
3. Малюнак трэба прысылаць да 15 мая на пададзены ніжэй адрас.
4. Узрост удзельнікаў конкурсу малюнкаў – ад 4 да 14 год.

Інфармацыя для кантактаў: тэл. **+375 44 460 61 40; +375 29 784 05 72**

e-mail: sakralna@op.pl

Дасылаць перапісаныя тэксты або малюнкі трэба на адрас: **230025, Гродна, вул. К. Маркса, 4,** з надпісам на канверце: II Дыяцэзіяльны дзень дзіцяці.

**Адказны за II Дыяцэзіяльны дзень дзіцяці – кс. Юрый Марціновіч, дырэктар партала**

catholic.by

# СМЕРЦЬ, ДЗЕ ТВАЯ ПЕРАМОГА?

*"Калі тое, што тленнае, апранецца ў нятленнасць, а тое, што смяротнае, апранецца ў бессмяротнасць, тады споўніцца напісанае слова: Перамога паглынула смерць. Смерць, дзе твая перамога? Смерць, дзе тваё джала?"(1 Кар 15,54-55)*

**З гэтымі словамі Святы Апостал Павел звяртаўся да карынфянаў у сваім першым да іх Пасланні. А што думаюць пра смерць нашы вернікі?**

*Апытанне падрыхтавала Ірына Грэйць*



**Алёна Грыбко:**

– Смерць. Для некага – гэта страшна, для некага – цікава. Для мяне – гэта толькі пераход да іншага жыцця. Гэта – толькі дзверы ў пакой: у іншы, у лепшы. Страшна толькі пакідаць бацькоў, родных, кожнага чалавека. Але там чакае мяне Бог, чакае Езус. Толькі для пераходу да такога жыцця трэба рыхтавацца яшчэ на зямлі. Трэба навучыцца святасці. Трэба навучыцца радасці, дабру, узаемапаразуменню. Трэба навучыцца любові. А як? Ісці за Езусам праз усё жыццё. Праз цярпенне, праз нястачу, праз кожныя моманты жыцця. Ісці і несці свой крыж за Езусам да канца жыцця. А пасля смерці будзе вынік. Усё залежыць ад нашых дзеянняў цяпер, на сённяшні дзень. І кожны мае выбар. Трэба толькі вырашыць, што для цябе важней: зямное, кароткае жыццё, якое праляціць за 60-80 гадоў, ці вечнае, нябеснае. Калі вырашыш правільна, то смерці не будзеш баяцца. Будзеш толькі рыхтавацца, каб з годнасцю і ў чысціні прыйсці да Бога.



**Юлія Якаўлева:**

– Смерть для меня – переход к новой, лучшей реальности, к встрече с Творцом. Для христианина смерть имеет иной смысл, нежели для неверующего человека. Жизнь для него – прелюдия к жизни вечной. Она наполнена ожиданием преображения земного, полного страданий, существования. Апостол Павел называет смерть приобретением, смерть для него – вступление в непосредственную близость с Господом. Становится понятным, что смерть и переживается христианином по-другому: нет отчаяния, пустоты, слёз (разве только слёз радости, ведь человек продолжает жить)!



**Ян Самусёнак:**

–Смерці я баюся, паколькі на 100% не ведаю, што будзе далей. Тым больш, што такое смерць, дакладна не магу апісаць, бо не паміраў (усміхаецца). Але магу сказаць, што вера ў Хрыста дазваляе мне быць упэўненым у тым, што смерць – толькі пераход да новага, вечнага жыцця, гэта пераход ад зямнога жыцця да нябеснага. Вельмі баюся памерці з грахамі. Уявіце хворых людзей. Ім складаней паміраць, чым здаровым, маладым. Для родных і сваякоў таксама будзе цяжка перажыць адыход блізкага чалавека ў вечнасць. Мы заўсёды павінны маліцца, каб пасля раптоўнай смерці ўвайсці ў Вечнае валадарства да Пана Бога.



**Аляксандр Булах:**

– Смерць не будзе страшнай у тым выпадку, калі пасля зыходу з жыцця людзі будуць памятаць цябе як чалавека, што заўсёды жыў з Богам, да якога заўсёды можна было звярнуцца па дапамогу, які заўсёды разумеў і падтрымліваў цябе ў складаных сітуацыях. Вось тады можна не баяцца. Бо тваім дзецям і блізкім таксама дапамогуць.



**Сяргей Парфяновіч:**

– Смерць – гэта тое, чаго баяцца людзі, але не ўсе. Ніхто не ведае, калі памрэ, таму ўсе жывуць – як захочуць. Але калі здарaецца гора, чалавек прыходзіць да Бога. Я думаю, што пасля смерці будзе суд, на якім вылучаць дзве групы людзей: з Богам і з д'яблам. Больш за ўсё я баюся пекла. Хачу быць заўсёды на небе з Богам. Калі мы, людзі, заўсёды будзем з Хрыстом, тады можам не баяцца смерці.

# Крыжовы шлях на Мосарскай Кальварыі

**Кожны чалавек у сваім жыцці праходзіць шлях, дзе ёсць узнёсласць і падзенне, радасць і горыч, раўніны і ямы...**

**кс. Аляксей Юркайць,** *адміністратар парафіі Мосар*

На распачацце святых велікапосных рэкалекцый у пятніцу, 16 сакавіка, у Мосары вернікі прайшлі Крыжовы шлях пакаяння па Кальварыі, каб зноў перажыць таямніцу крыжовага адкуплення чалавецтва і смерці Езуса Хрыста.

На гэтае адмысловае набажэнства парафіяне прыйшлі, трымаючы ў сваіх руках прынесеныя з дому крыжы. Разважанне кожнай стацыі падрыхтавалі самі вернікі, і падчас Крыжовага шляху неслі вялікі бярозавы крыж як сімвал Хрыстовага Крыжа.

Пасля ўрачыстага благаслаўлення пры апошняй стацыі душпастыр парафіі ксёндз Аляксей Юркайць заахвоціў прысутных скарыстацца ласкай Адпусту і прыняць плённы ўдзел у рэкалекцыях. Ён таксама нагадаў, што намаганнямі памерлага кс. Ёзаса Булькі 10 кастрычніка 2004 г., у дзень 490-годдзя першага летапіснага ўспаміну Мосара, на Гары Крыжоў быў устаноўлены велізарны крыж як працяг Мосарскай Кальварыі. Таму ў 2014 годзе будзе адзначацца 500-годдзе Мосара, і да юбілею вёскі надалей таксама будуць ладзіцца адмысловыя набажэнствы і парафіяльныя імпрэзы.

Набажэнства Крыжовага шляху на Мосарскіх могілках было цудоўнай магчымасцю не толькі падзяліць з Езусам цяжар Крыжовай дарогі, але і ўбачыць сваю слабасць і няверанасць і паглядзець на ўласнае жыццё з жалем за ўчыненае зло, грахі, каб, ачысціўшыся ад іх, з радасцю і надзеяй сустракаць Вялікдзень – свята Уваскрасення, што ёсць сэнсам нашага жыцця і веры. Як казаў апостал Павел: *"Калі Хрыстос не Уваскрос, дык дарэмная вера вашая"(1, Кар. 15, 17).*

Падчас рэкалекцый суддзя касцельнага суда Віцебскай дыяцэзіі і душпастыр Дзеркаўшчынскай парафіі кс. Віталь Галец дапамог вернікам зноў перажыць навяртанне і адрадзіць нанова веру ў Хрыста, каб, захоўваючы яе пяшчотна ў сэрцах, як каштоўны скарб у гліняным начынні, мы маглі сустрэць Уваскрасенне!!!



# Пазнаем літургію

**Здаецца, што найменш вядомым аспектам навучання Папы Бэнэдыкта XVI для беларускіх каталікоў застаецца яго погляд на літургію. І шкада, бо літургія, асабліва Св. Імша, як падкрэслівае "Канстытуцыя аб Святой Літургіі II Ватыканскага Сабора", хоць і не вычэрпвае ўсёй дзейнасці Касцёла, але з'яўляецца вяршыняй, да якой імкнецца гэтая дзейнасць, і адначасова – крыніцай, з якой выплывае моц Касцёла (пар. КЛ 9, 10). Літургічнае святкаванне з'яўляецца дзеяннем у найвышэйшай ступені святым (пар. КЛ 7), дае адчуванне ўдзелу ў нябеснай літургіі (пар. КЛ 8), успрымаецца, перш за ўсё, як ушанаванне Божай велічы (пар. КЛ 33).**

**а. Міхал Ермашкевіч OP**



На жаль, у літургічную практыку Касцёла, у тым ліку і ў нас, усё больш закрадваюцца злоўжыванні і перакосы нязгодных з намерамі айцоў Сабора, супраць якіх выступаў і перад якімі перасцерагаў Бэнэдыкт XVI яшчэ ў той час, калі быў прэфектам Кангрэгацыі Навукі Веры. Напрыклад, у яго кнізе "Дух літургіі", выдадзенай 10 гадоў таму, чытаем, што ў апошні час "дайшло тут да клерыкалізацыі, якой раней у гэтым месцы ніколі не было. Святар як кіраўнік літургіі (так яго зараз ахвотна называюць) робіцца зараз характэрным адносным пунктам для цэлаunion. Усё залежыць ад яго. Гэта яго трэба бачыць, гэта ў яго дзейнасці трэба ўдзельнічаць, яму адказваць, гэта яго творчасць падтрымлівае ўсё. Абгрунтавана робіцца спроба зменшыць гэтую толькі што пакліканую да жыцця ролю праз падзел разнастайных дзеянняў і даручэнне "творчага" апрацавання літургіі групам вернікаў, якія рыхтуюць набажэнства, якія павінны, а перад усім, хочуць "уключыцца" ў ход Імшы.

Усё менш тут бачна Бога, усё важнейшым робіцца тое, што чыняць людзі, якія тут сустракаюцца і якія зусім не хочуць падпарадкоўвацца "дадзенай зверху схеме". Паварот святара да людзей робіць з супольнасці замкнутае кола. Супольнасць у сваёй форме ўжо не адкрытая, ні да пераду, ні да вышыні, але замыкаецца сама ў сабе.

Супольны кірунак на Усход не азначаў ні таго, што "служыцца да сцяны", ні таго, што святар "паварочваецца спінай да народа" (проста не лічыўся ён ажно такім важным). Бо таксама як у сінагозе супольна глядзелі ў бок Ерусаліма, так і тут супольна паглядаецца "на Пана". Як выказаў гэта А. Й. Юнгман, адзін з айцоў Канстытуцыі аб Святой Літургіі II Ватыканскага Сабора, справа была хутчэй у тым самым кірунку звяртання святара і народа, якія ведалі, што супольна накіроўваюцца да Пана. Не замыкаюцца ў коле, не прыглядаюцца адно аднаму, але, як Божы народ-вандроўнік, накіроўваюцца на Усход, у бок Хрыста, што выходзіць нам насустрач".

[...] Істотным пытаннем тут, аднак, з'яўляецца супольны кірунак на Усход падчас Эўхарыстычнай малітвы. Справа тут не ў дыялогу, але ў супольнай адарацыі, у выхадзе насустрач таму, хто надыходзіць. Гэта незамкнутае кола адпавядае сутнасці здарэння, але супольнае выпраўленне ў дарогу, якое выражаецца ў супольным кірунку...

... Ці мы павінны зараз усё нанова перастаўляць? Бо нішто так не шкодзіць літургіі, як менавіта пастаяннае яе "стварэнне", нават калі здаецца, што кіруемся сапраўдным аднаўленнем.

Выхад бачу ў навучанні Эрыка Петэрсана. Усходні кірунак быў злучаны...са "знакам Божага Сына", з Крыжам, з паўторным прыходам Хрыста. Гэтым самым Усход быў ад пачатку звязаны са знакам Крыжа. Там, дзе супольнае вяртанне на Усход немагчыма, там Усходам духоўным служыць можа крыж. Павінен ён стаяць на сярэдзіне алтара і быць пунктам, які засяроджвае зрок святара і грамады, што моліцца. Такім чынам, паводзім сябе згодна са старажытным заклікам да малітвы на пачатку Эўхарыстыі: Conversi ad Dominum – звярніцеся да Пана. Глядзім супольна на таго, хто прадстаўляе нас перад Айцом і абдымае нас сваімі рукамі, на таго, хто чыніць з нас жывую святыню.

Да сапраўды абсурдных з'яў апошніх дзесяцігоддзяў залічваю факт, што крыж адстаўляецца набок, каб не засланяў святара. Ці крыж перашкаджае Эўхарыстыі? Ці святар важнейшы, чым Хрыстус? Гэтую памылку трэба выправіць як мага хутчэй, гэта можна зрабіць без неабходнасці далейшых перабудоў. Пунктам адносным з'яўляецца Пан. Ён – узыходнае Сонца гісторыі. Таму можна выбраць Крыж, які прадстаўляе Пакуты, які ўвасабляе Пакутніка, што дазволіў за нас прабіць свой бок, з якога выцеклі кроў і вада – Эўхарыстыя і хрост, або таксама Крыж Хрыстатрыумфатара, які выказвае думку аб Другім Прыйсці і на яго скіроўвае позірк. Заўсёды – гэта "Езус Хрыстус" учора і сёння, той жа таксама на вякі (Гбр 13.8)."

Кардынал Йозэф Рацынгер. "Дух літургіі". Познань, 2002. с. 74-75, 77

Да гэтага можна толькі дадаць, што ні адзін з дакументаў II Ватыканскага Сабора не загадваў святару адмаўляцца ад кірунку "на Усход" і цэлебраваць тварам у бок вернікаў.* Ні адзін з тых дакументаў не загадваў перасоўваць крыж убок ці ў якое іншае месца. Таму прыклад вяртання да традыцыйных літургічных практык і афармлення алтара, які дае ў сваёй навуцы і папскіх цэлебрацыях Бэнэдыкт XVI, не нясе супярэчнасці ў адносінах да гэтых дакументаў, як мяркуюць некаторыя асобы, што часта іх проста не чыталі і не ведаюць, аб чым у іх гаварыцца.

Такім чынам, хацелася б заахвоціць вернікаў да больш грунтоўнага пазнання глыбіні і сэнсу літургіі на падставе вышэйузгаданых крыніц і іншых выказванняў Св. Айца, каб максімальна чэрпаць з яе моц да сапраўды хрысціянскага перажывання таямніцаў нашай веры.

* Дарэчы, ці не прадугледжвае і апошняе выданне Рымскага Імшалу традыцыйнай паставы святара ad Orientem – на Усход, калі піша ў рубрыках "святар звяртаецца да алтара...", "звернуты да народа". Бо, каб увесь час быў звернуты да народа, гэтыя заўвагі не мелі б сэнсу. Ды і ў многіх санктуарыях перад цудоўнымі абразамі ці на Яснай Гары ў Чэнстахове, ці у Вострай Браме ў Вільні немагчыма служыць тварам да народа. Ці ж іх трэба перарабляць паводле меркаваных "пастаноў Сабора"? ... А колькі ж актаў вандалізму зроблена, калі ў імя гэтых "пастаноў" нішчыліся старыя алтары – сапраўдныя шэдэўры рэлігійнага мастацтва, замененыя на базлікія сталы! І што ў гэтым добрага? Вера ад такой "рупліваcці" зусім не ўзрасла, хутчэй, наадварот.

# Пілігрым! Едзь у Рым!

## Piligrymka.by абвяшчае конкурс

**– Што шукае пілігрым?**

**– Адкажы – і едзь у Рым!**

На працягу чатырох гадоў рымска-каталіцкая парафія ў Расонах, вядомая таксама пад назвай Piligrymka.by, выступала арганізатарам паломніцтваў па святых і гістарычных месцах Еўропы і Ізраіля, выклікаючы зацікаўленасць да знаёмства з культурай і гісторыяй праз прызму хрысціянства. За гэты час некалькі тысяч чалавек узялі ўдзел у пілігрымках, паглыбіўшы сваё духоўнае жыццё і атрымаўшы яскравыя ўражанні.

Распачынаючы новы год працы і служэння, Piligrymka.by прапануе ўсім ахвотным прыняць удзел у конкурсе, пераможца якога атрымае цудоўную магчымасць стаць пілігрымам і наведаць базіліку Святога Пятра, што месціцца ў Ватыкане. Адначасова будзе нагода пазнаёміцца з цудоўным абразом у Чэнстахове, саборам св. Стэфана ў Вене і базілікай св. Марка ў Венецыі.

Для гэтага трэба напісаць эсэ на тэму "Што шукае пілігрым?"

У конкурсе можа прыняць удзел кожны ахвотны. Не мае значэння канфесійная прыналежнасць ці светапогляд.

Праца мусіць быць напісаная па-беларуску і адасланая для Piligrymka.by не пазней за 15 чэрвеня 2012 г.

Канкурсант падае імя, прозвішча і свой адрас, а таксама нумар тэлефона.

Працы высылаюцца на e-mail: piligrymka@tut.by

Чакаем вашых лістоў і цікавых апавяданняў. Найбольш цікавыя эсэ абавязкова будуць змешчаныя на сайце www.piligrymka.by

Падрабязнасці на сайце: www.piligrymka.by

Каб даведацца больш і прыняць удзел у адным з паломніцтваў, тэлефануйце непасрэдна зараз:
8-029-6187299, 8-029-6528294, 8-029-6186887 (Velcom)
8-029-5187227, 8-029-2172625, 8-029-5187686 (МТС)

*кс. Вячаслаў Барок, пробашч рымска каталіцкай парафіі ў Расонах*



**На здымку:** жаўнер Швейцарскай Гвардыі Ватыкана.

# Стать новым человеком...

**Пасха... Этот день важнее любого праздника и значимее любого события. В этот день все человечество – каждый из нас, получили надежду на спасение. В Пасхе – вся суть христианства, весь смысл нашей веры.**

**Наталия Станкевич**

Но прежде, за 40 дней до праздника начинается Великий пост. Его цель – очистить христиан от грехов и помочь с чистым сердцем встретить Великий Праздник Святой Пасхи – Светлое Христово Воскресение. Для верующих это событие имеет огромное значение, символизируя торжество Жизни над смертью, Добра над злом, надежду каждого из нас на лучшее будущее.

Великий пост – время нашего исцеления. Главное в посте – не только ограничение в пище, но и молитва, воздержание от греха, и злых мыслей, слов и поступков. Как сказал кто-то из мудрых священников, «главное всё-таки – не есть людей. Ведь главный и единственный смысл поста – духовно подготовить христианина к покаянию – необходимому лекарству для исцеления и спасения души. Это нелегко. Но помогают нам священники, через исповедь, молитву, встречи и реколлекции.

Так, в г. Браславе для прихожан костела Рождения Девы Марии прошли реколлекции отца Игната (Ахремовцы). Через литургию, встречи с детьми и молодежью, исповедь мы подготавливались к смерти и воскресению Иисуса Христа. Благодаря проповеди отца каждый из прихожан, мне кажется, задумался о сущности исповеди и глубокой молитвы, сожаления о грехах и прощении. Слушая проповеди отца Игната, я осознавала ошибки, всю серьёзность своих проступков. Чувствуя вину в такие минуты, понимаешь: ты должен стать лучше для других и себя, а главное - Бога...

Было над чем задуматься и есть над чем работать. За это спасибо отцу Игнату. И от имени всех прихожан хочется выразить слова благодарности за ту бескорыстную и удивительную помощь, за те не осуждающие, но действенные слова и советы.

Эти реколлекции стали временем покаяния и духовного очищения каждого из прихожан. Через искреннюю исповедь и причастие мы приняли Бога в своё сердце и отдали Ему всего себя. Радуюсь, ведь Бог со мной, рядом. И я с Ним...

Мы открыли наши сердца навстречу страдавшему, и умершему, и воскресшему ради нас Иисусу. И Он вошёл, наполнив Собой и Своим светом нашу жизнь, преобразив наши души.

Праздновать Пасху – это значит стать новым человеком!



Паставы

# Свята ў Паставах

26 сакавіка ў нашым касцёле адбылася ўрачыстая падзея пад назвай "Дзякуй табе, мама!". Гэтае цудоўнае свята было запланавана і падрыхтавана па ініцыятыве каардынацыйнай групы нашай парафіі як ушанаванне не толькі нашых родных матуль, але і Найсвяцейшай Панны Марыі, нашай агульнай Маці.

Арганізатары распрацавалі жэсты для ўсіх: наведаць адзінокіх жанчын, схадзіць, па магчымасці, на могілкі, напісаць лісты матулям, падзякаваць ім за дар жыцця. А таксама літургічны жэст у касцёле: мы запрасілі шматдзетных маці, якія выхавалі больш за чатырох дзяцей. Такіх жанчын у горадзе аказалася каля 30. Усім ім былі падараваны абразы Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса, скаўты прэзентавалі кветкі. Кветкамі таксама ўганаравалі і Маці Божую, арганізавалі паднашэнне дароў.

Святая Імша ладзілася раніцай і ўвечары, таму ўсе ахвотныя маглі прыняць удзел у святкаванні. Гучалі пранікнёныя разважанні, малітвы, вершы, спевы. Былі зробленыя фотавітрына і выстава дзіцячых малюнкаў. Асаблівая ўдзячнасць нашым сёстрам, якія з маленькімі дзеткамі падрыхтавалі цудоўны канцэрт.

Арганізатары ўшанавалі і маці нашых святароў, і сясцёр. Ім дзякавалі за працу, за годнае выхаванне сваіх дзяцей для службы Пану Богу і Касцёлу.

Таксама была прадоўжана традыцыя "Духоўнага ўсынаўлення". На гэты раз да высакароднай справы далучылася 60 чалавек, а агульная колькасць складае зараз 183 асобы. І гэта цудоўна!

***Аліцыя Трафімовіч,*** *г. Паставы*



## Вялікдзень

*Вялікдзень – Хрыстовай любві перамога,*
*Што брамы адхлані змагла, духа злога,*
*Што вырвала смерці пякельнае джала*
*І сонцам Збаўлення для свету зазззяла.*

*Вялікдзень – здабытак цярновае славы,*
*Крыжовага Шляху і Мукі крывавай,*
*Што зведаў ад грэшных Сын Божы Адзіны,*
*Ахвяраю стаўшы бязгрэшнай, нявіннай.*

*Вялікдзень – трыумф ёсць Хрыстовага свята*
*Над ворагам для чалавецтва заклятым.*
*Сын людзям Айца паказаў міласэрнасць,*
*Святло дабрыні, Божай ласкі бязмернасць.*

***Генавефа Бартко,*** *в. Абруб*

Лучай

## Шаноўны ксёндз Мікалай Ліпскі!

Бог падараваў Вам вялікую ласку – атрымаць Сакрамант святарства ў светлы, радасны дзень Уваскрасення Хрыстова, 8 красавіка 2007 года. І вось сёлета 8 красавіка і таксама ў Велікодную нядзелю спаўняецца пяць гадоў з таго дня, як Вы ўвайшлі ў наш касцёл. Увайшлі сапраўдным дбайным гаспадаром, добрым духоўным настаўнікам, дарадчыкам. Пяць кароткіх і такіх шчодрых гадоў, напоўненых плённай працай як у духоўным, так і ў творчым плане.

Шчыра віншуем Вас з радаснай падзеяй пасвячэння і з Днём святарства. Дзякуем Вам за глыбокае веданне веры, за тую непаўторную прыгажосць, якую Вы ствараеце, за арганізацыю ўрачыстасцяў, падчас якіх цудоўна спалучаюцца Святая Імша і адпачынак.

А колькі хвалюючых, радасных хвілін мы перажылі ў часе пілігрымак па святых мясцінах Польшчы, Літвы, Беларусі! Яшчэ больш спазналі Бога, умацаваліся ў веры. Ды хіба пералічыш усё тое, што Вы робіце для сваёй парафіі і на хвалу Богу!

*Усемагутны хай Вам дапаможа*
*Ў малітве і працы трываць.*
*І крыніцу жыцця – слова Божае*
*Годна свету ўсяму абвяшчаць.*

*Хай жа поўняцца светлаю радасцю*
*Кожны дзень Ваш і кожны час.*
*Пад апекай Божай маці*
*Жыць заўжды. З днём Святарства Вас!*

*Са шчырай малітвай за Вас,*
*вернікі касцёла*
*Св. Юды Тадэвуша, Лучай*

# Падзяка

У лютым гэтага года я лячылася ў Глыбоцкай раённай бальніцы. Маім урачом быў Казімір Вацлававіч Яцына. Зайшла да яго на прыём у кабінет, убачыла там абразы і адразу зразумела, што ніякія лекі мне не дапамогуць так, як Божая Воля. Кожную нядзелю ў бальніцу прыязджае святар з Удзела а. Ян Хернік. Гэты чалавек нарадзіўся для службы Богу, гэта ён нясе дапамогу Божую для нас, грэшных. Хачу шчыра падзякаваць а. Яну за Божае Слова, за цярпенне. Цалую ягоныя святыя рукі.

Дзякую ўрачу Казіміру Вацлававічу Яцыну за старанне, за ўвагу да хворых. Таксама выказваю словы падзякі старшыні Глыбоцкага райвыканкама Алегу Віктаравічу Морхату і галоўнаму ўрачу раённай бальніцы Сяргею Юр'евічу Петухову за тое, што хворыя маюць магчымасць сустракацца са святарамі і ўдзельнічаць у св. Імшы. Дзякую ўсім, што жывуць з Богам і для людзей.

***Лія Уладзіміраўна Мацюшонак,*** *парафіянка капліцы Св. Антонія Падуанскага ў в. Прошкава*

Добрая Вестка ў тваім доме! Каталіцкі ВЕСНІК №4(13) красавік 2012 г.

# ХТО СТВАРЫЎ СВЕТ: ЭВАЛЮЦЫЯ ЦІ БОГ?

**У 2007 годзе адбылася беспрэцэдэнтная для дэмакратычнага свету падзея. Група палітыкаў, што складаюць Парламенцкую асамблею Рады Еўропы, выступіла з рэзалюцыяй, у якой фактычна забараняла вучоным карыстацца навуковай тэорыяй стварэння свету Богам (крэацыянізмам). І ў той жа час рэзалюцыя заклікала грунтавацца толькі на тэорыі самастварэння свету (эвалюцыянізме). Навуковы крэацыянізм рэкамендавалася забараніць і абмежаваць выключна рэлігійнай сферай. Што ж такое здарылася ў навуковым свеце, што змусіла палітыкаў умяшацца ў навуку і накласці табу на тэорыю стварэння свету?**

**кс. Андрэй Рылка**





## Праблема эвалюцыянізма: чаму жырафа мае доўгую шыю?

Прычына "навуковай" актыўнасці палітыкаў-атэістаў была звязаная з найноўшымі адкрыццямі, асабліва ў сферы генетыкі, у выніку якіх вучоныя пачалі сур'ёзна сумнявацца ў тэорыі эвалюцыі і схіляцца да крэацыянізму. А праблема ў тым, што на аснове біялагічнай тэорыі Ч. Дарвіна ў канцы XIX ст. была створаная ідэалогія т.зв. эвалюцыянізму. Яна абвяшчала, што свет выпадкова стварыўся сам па сабе і што развіццё арганізмаў – гэта бессэнсоўная выпадковасць. Светам кіруе натуральны адбор, прыстасаванне да асяроддзя. Бога няма, чалавек з'яўляецца канчатковай інстанцыяй і мерай каштоўнасцяў, маралі, вяршэння дабра і зла. Праектанты цывілізацыі без Бога ўбачылі ў тэорыі эвалюцыі ідэальны падмурак для пабудовы выгаднай для сябе навукі і грамадскай ідэалогіі. Заставалася толькі даказаць, што няма альтэрнатывы эвалюцыянізму.

Праектанты цывілізацыі без Бога ўбачылі ў тэорыі эвалюцыі ідэальны падмурак для пабудовы выгаднай для сябе навукі і грамадскай ідэалогіі.

Навука стала закладніцай ідэалогіі. Каб зразумець, які шлях прайшлі вучоныя ад абслугоўвання ідэалогіі эвалюцыянізму да сучаснага крэацыянізму, варта прывесці прыклад. Калі б вы спыталіся ў эвалюцыяніста, чаму жырафа мае доўгую шыю, адказ быў бы вельмі просты: у выніку таго, што жывёлы гэтага віду вякамі цягнуліся да лісця на дрэвах, каб паесці. Выжывалі тыя, у каго была даўжэйшая шыя... У XIX ст. такі адказ пераконваў біёлагаў і прымаўся як дастатковы аргумент у абарону эвалюцыйнай тэорыі. А сёння з гэтага смяюцца нават школьнікі.

Крызіс эвалюцыянізму пачаўся ў XX ст. у сувязі з адкрыццямі генетыкі, якія супярэчылі тэзісам тэорыі эвалюцыі. Аказалася, што змены знешніх умоваў жыцця, якія нібыта тлумачаць біялагічную эвалюцыю, на самай справе ніяк не ўплываюць ні на трансфармацыю, ні на з'яўленне новых відаў. Было даказана, што ўсё залежыць ад генетычнага (інфармацыйнага) коду, які нязменна прапісаны ў нашых арганізмах і які акрэслівае ўсе нашыя біялагічныя магчымасці. Змены генетычнага коду (мутацыі) таксама не могуць быць рухавіком эвалюцыі, бо маюць не пазітыўныя, але негатыўныя наступствы (прыводзяць да калецтва або гібелі арганізма). Прататып заўсёды аказваецца біялагічна лепшы (аптымальны), чым вытворныя ад яго арганізмы – гібрыды, мутанты.

У канцы XX ст. дайшло да таго, што вучоныя апынуліся перад парадоксам, які поўнасцю паставіў пад сумнеў навуковасць эвалюцыянізму. Аказалася, што існуе больш доказаў біялагічнай дэвалюцыі (распаду), чым эвалюцыі (развіцця). Бо няма доказаў узнікнення хаця б аднаго новага біялагічнага віду на працягу вядомых навуцы апошніх 500 млн. гадоў. А ёсць шмат доказаў таго, што многія віды вымерлі. Паводле навуковага закону энтропіі (узрастальнага бязладдзя), у свеце адбываецца пастаянны распад: гарачае астывае, высокае зніжаецца, лад змяняецца хаосам і г.д. На кожным кроку адкрыцці вучоных усё больш ішлі ўразрэз з асновамі эвалюцыянізму.

## Бяда эвалюцыянізму: хто прыдумаў дзятла?

У наш час развіццё навуковых даследаванняў прывяло да адкідвання тэорыі натуральнага адбору, на якой грунтуецца эвалюцыянізм. Адным з прыкладаў смехатворнасці і казачнасці гэтай тэорыі стала адкрыццё анатоміі галавы дзятла. Справа ў тым, што ў гэтай птушкі язык мае выгляд загнутай закасцянелай трубкі, якая цягнецца ад правай наздры вакол галавы аж но за патыліцу. Паводле тэорыі эвалюцыі, першы дзяцел меў нармальны птушыны язык у дзюбе. А пасля цэлыя пакаленні гэтай птушкі павінны былі сотні тысяч гадоў проста выцягваць язык і прытым – праз нос. Навошта яго выцягваць, ведаюць толькі... сучасныя дзятлы, у якіх язык завярнуўся праз нос за патыліцу, закасцянеў, трапіў пад скуру і ператварыўся ў каналік для корму. Здаецца, каментарыі непатрэбныя.

Сучасны эвалюцыянізм – гэта цэлы набор шматлікіх гіпотэз, якія імкнуцца даказаць сваю навуковасць. Аднак справа нават не ў біялагічных гіпотэзах навуковых даследчыкаў. Праблема ў створанай на аснове гэтых тэорый ідэалогіі эвалюцыянізму, якую запланавалі атэісты як падмурак для цывілізацыі без Бога. Таму яны, не маючы сур'ёзных навуковых аргументаў, імкнуцца ўтрымаць дамінаванне свайго светапогляду сілавымі метадамі палітычнага прымусу. Аднак развіццё навукі ідзе ў кірунку вызвалення ад казачнага атэістычнага светаўспрымання, заснаванага на гіпотэзе самастварэння прыроды (эвалюцыі). Сучасныя вучоныя нанава адкрываюць для сябе лагічнасць і навуковасць каталіцкай тэорыі крэацыянізму – паходжання свету ад Разумнага Стваральніка.

**Барсукі**

## Нястомны працаўнік на ніве Божай

Ксёндз Юрый Бараўнёў ужо не адзін год вядзе сваю паству дарогай да Бога. Да нас, у Барсукі, ён прыйшоў працаваць яшчэ ў старую, маленькую каплічку. Мы былі шчаслівыя, што можна прыйсці памаліцца, аддаць паклон Богу, папрасіць заступніцтва.

Але час няўмольна бяжыць наперад. І малады кс. Юрый з невычэрпнай энергіяй вырашыў пабудаваць касцёл. Гэта ён, наш ксёндз, вёў перамовы, дабываў будаўнічыя матэрыялы, дамаўляўся з рабочымі. Гэта ён кіраваў будоўляй, размешваў цэмент, па-мастацку пэндзлем упрыгожваў сцены і столь. А таму нашаму няўрымсліваму святару мы нізка кланяемся за новы светлы касцёл, за навуку, якую нам дае, за паяднанне з Панам Богам.

23 красавіка ў кс. Юрыя Дзень нараджэння. Мы малітоўна жадаем яму моцнага духоўнага і фізічнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця. Хай Езус Хрыстус адорвае нашага шаноўнага пастыра і яго родных і блізкіх усімі патрэбнымі ласкамі і моцаю Сваёй любові.

***Вернікі з Барсукоў***

# П'е сын. Што рабіць?

**Чалавек можа быць сам сабе нявольнікам. Можа быць і ворагам сабе, і гаспадаром сябе і гаспадаром таксама сваіх жаданняў. У вадзе можна патануць, але ці вада праз гэта будзе злой? Агонь гарачы, але ці праз гэта будзе ён злым і непатрэбным? Алкаголь можа дапамагчы і можа забіць кожнага: і мяне, і сям'ю. Таму і я, і ты патрабуем змены падыходу да гэтых рэчаў: трэба ўмець так карыстацца імі, каб яны служылі, і былі пажыткам, і не няволілі. Кожны можа купіць альбо не купіць алкаголь – гэты выбар залежыць ужо ад нас.**

**кс. Андрэй Бочар MS**,
*дыяцэзіяльны душпастыр цвярозасці*



Шмат сем'яў у нашых гарадах і вёсках церпіць з таго, што людзі не ўмеюць ўжываць спіртных напояў, маюць дрэнныя звычаі і традыцыі. Скажы мне, што ты ясі, што п'еш, што чытаеш, што глядзіш, а я скажу табе, кім ты з'яўляешся. Здаровае харчаванне, добрыя напоі даюць здароўе і радасць. Ты сам павінен выбраць, што будзеш піць і есці. Святое Пісанне (Біблія) кажа: "Выберы Жыццё". Бабуля плача, што ўнук п'е алкаголь. Мама плача, што сын п'е алкаголь. Жонка плача, што муж п'е алкаголь. Але ці ты, бабуля, хочаш, каб унук не ўжываў алкаголю? Ці ты, мама, хочаш, каб сын не піў? Ці ты, жонка, хочаш, каб муж не піў? Калі хочаш, то спачатку сама не ўжывай спіртнога, не купляй, не частуй нікога. Бяры ўдзел у групе "Ананімных алкаголікаў". Не ведаеш, што такое група "Ананімных алкаголікаў?". Тады даведайся.

Лёгка ўсё гэта сказаць, але зрабіць вельмі цяжка, таму што на самай справе не так проста. Я ведаю, гэта цяжкі крок, але зрабіць так магчыма. Ведаю шмат сем'яў з Беларусі, якім удалося "завязаць" з гэтай залежнасцю раз і назаўсёды. І вам, напэўна, удасца, калі захочаце. Хочаце ці не? Сёння ў Беларусі ёсць вялікая магчымасць лячэння алкагольнай залежнасці праз тэрапію, напрыклад, у Гродне, Мінску.

Мы маем вечнае жыццё, але што мы з ім зробім?

**Мы маем вечнае жыццё, але што мы з ім зробім?**

Да Настаўніка прыходзіць жанчына і кажа: "Мой муж – нікчэмны чалавек, кожны дзень ужывае алкаголь, не дапамагае па доме, не хоча хадзіць на працу. Калі знаходзіцца дома, толькі крычыць на дзяцей, есць і спіць. Сям'я распадаецца. Дзеці непаслухмяныя. Усё гэта робіцца праз яго віну. Я так далей не вытрымаю". Настаўнік адказаў, што жонка мае рацыю. Праз некалькі дзён прыходзіць мужчына і кажа: "Мая жонка лянівая, нічога не робіць у хаце, не прыбірае, няўмела гатуе ежу, дрэнна выхоўвае дзяцей, настаўляе іх супраць мяне, не мые маё адзенне, не адгукаецца да мяне. Сям'я можа распасціся. У гэтым уся яе віна". Настаўнік адказаў яму: "Так, ты маеш рацыю". Прыслухаўся да гэтага вучань і кажа: "Не можа быць так, што яна і ён – абое – маюць рацыю". Настаўнік адказвае вучню: "Ты маеш рацыю".

Алкаголік мае свае правы і апраўданні, а яго сям'я – цалкам іншыя. Вельмі часта мы чуем, што алкаголь з'яўляецца нядобрым і небяспечным, ворагам сям'і і чалавека. А праўда іншая: менавіта чалавек прымае рашэнне. Вакол нас можа плысці рака алкаголю. У крамах паліцы ўгінаюцца ад гарэлкі і віна, але, калі я не дакрануся, не куплю, алкаголь мне нічога не зробіць. Я магу піць альбо не піць, гэта і ёсць мая слабасць. Я хрысціянін і з'яўляюся вучнем Езуса, маю вялікую сілу ў сабе – дар вечнага жыцця, якое падарыў мне Змёртвыхпаўсталы Езус.

Часта мы забываемся, што нашае жыццё вечнае і прыгожае. І мы не заўважаем, калі пачынаем быць залежнымі ад алкаголю. На самай справе ён дае несапраўдную радасць і фальшывае шчасце, якое прыходзіць пасля яго ўжывання. На самым пачатку спажывання алкаголю нічога дрэннага не робіцца, чалавек задаволены і зычлівы да людзей, асяроддзя. Гэта жонка злая і нядобрая, а таксама іншыя, хто не прымае майго п'янства. Праз год ужо інакш. Праз два і больш гадоў становіцца яшчэ горш. Страчваецца здароўе, застаёмся без працы, а ў дадатак – не маем аўтарытэту сярод сваіх родных. Сям'я распадаецца. Дзяцей забіраюць у дзіцячы дом – інтэрнат. Пазней дзеці асуджаюць свайго бацьку, што ён злы і нядобры, што ён не любіць іх. Жонка адыходзіць, а алкаголік альбо трапляе ў турму, альбо памірае.

**Калі мы будзем падтрымліваць цвярозасць і весці цвярозае жыццё, свет вакол нас зменіцца.**

Дарослыя спажываюць алкаголь. Гледзячы на іх, дзеці бяруць дрэнны прыклад. Сёння алкагольныя напоі ёсць паўсюль: на хрысцінах, на Першай Камуніі дзяцей, на вяселлях, на пахаваннях, і нават калі прычыны няма, людзі выдумляюць яе. Не ўмеем на сённяшні дзень святкаваць без алкаголю. Плачуць па гэтай прычыне нашы мамы, жонкі і дзеці, бабулі і дзядулі. Што мне рабіць: сын п'е? Што мне рабіць: муж п'е? Хто мае рацыю: алкаголік ці яго сям'я? Адказнасць за алкаголь нясём мы ўсе, а не толькі тыя, хто яго ўжывае.

Ён мае прычыны, з якіх п'е: праблемы на працы, жыццёвы стрэс, жонка не разумее, непаслухмяныя дзеці і г. д. А ў хатніх – сваё. Езус кажа:,"Не плачце нада Мной, але рабіце свет лепшым". Калі хочаш, можаш гэта змяніць, але толькі тады, калі сапраўды хочаш!!! Калі не будзеш купляць алкагольных напояў, не будзеш піць у часе Вялікага Посту, піць пры дзецях, падаючы дрэнны прыклад. Калі бабуля не нальe сваім унукам і не будзе купляць алкагольных напояў. Напрыклад, сама бабуля спажывае алкаголь, а дзеці бачаць. Пазней вялікае здзіўленне, што ўнукі п'юць. Таму мы як дарослыя людзі паказваем дзецям альбо кепскія, альбо добрыя паводзіны. Трэба памятаць: дзеці бяруць з нас прыклад!!! Калі мы будзем падтрымліваць цвярозасць і весці цвярозае жыццё, свет вакол нас зменіцца. Напрыклад, вяселле без алкагольных напояў, імяніны, дыскатэка без алкаголю. Мы як хрысціяне павінны штосьці рабіць у гэтым напрамку, а не плакаць, што ўсё дрэнна, а самі тым часам нічога не робім, толькі сядзім склаўшы рукі і чакаем, што хтосьці зробіць гэта за нас.

Ведаю некалькі сем'яў, якія на дзень нараджэння, на свята Божага Нараджэння і на Вялікдзень не спажываюць алкаголю. У нашых парафіях ёсць сем'і, у якіх на дзень нараджэння не знойдзеш ані кроплі алкаголю. Прыедуць дзеці, унукі, арганізуюць спектакль на свята для дзядулі альбо бабулі, на які збярэцца каля трыццаці асобаў – цудоўная атмасфера. Мы самі сваімі сіламі не зможам нічога зрабіць, але трэба памятаць, што мы з'яўляемся вучнямі Езуса Хрыста, мы маем Яго сілу і разам пераможам зло, "з Тым, які нас умацняе". Свет будзе лепшым, калі мы будзем лепшымі. Хрысціянін – гэта чалавек з ініцыятывай, сам стараецца штосьці добрае прыдумаць, замяніць зло на дабро. Памаліся і папрасі Езуса, няхай дапаможа.

Малітва, адарацыя ў інтэнцыі цвярозасці кожны месяц праводзіцца ў парафіях нашай дыяцэзіі. Моладзь і дарослыя запісваюцца ў кнігу цвярозасці, тым самым абяцаючы, што праз месяц альбо год не будуць купляць алкаголю, не вып'юць і нікога не пачастуюць. Вельмі дапамагаюць у гэтым напрамку рэкалекцыі, якія датычаць цвярозасці. Праводзяцца яны ў Баранавічах вясной і восенню, а таксама ў Браславе – летам. Рэкалекцыі цвярозасці – гэта час малітвы за ўмацаванне цвярозасці. Менавіта гэта і ёсць першы крок для нас, вернікаў, каб мы маглі пераменіць нашыя думкі. На гэтых рэкалекцыях можна даведацца, як дапамагчы хвораму чалавеку – алкаголіку, дапамагчы перастаць піць.

Калі маеш у сваёй сям'і альбо сям'і суседа алкаголіка, тады запрашаем цябе ўзяць удзел у рэкалекцыях і даведацца, як дапамагчы гэтым людзям. Сёння мы маем магчымасць лячыць чалавека, што з'уляецца залежным ад алкаголю і наркотыкаў. Алкаголь – гэта хвароба. Тэрапія (лячэнне) ад алкаголю ёсць у Гродне, Мінску і іншых месцах. Таксама ёсць групы, якія дапамагаюць пасля тэрапіі (лячэння), так званыя групы "Ананімных алкаголікаў" АА. Калі хтосьці жадае атрымаць больш падрабязную інфармацыю пра змаганне з алкагалізмам, калі ласка, тэлефануйце на нумар +375296229712.

---

**Канстанцінава**

## Хрыстус Уваскрос!

*Усё ажыло. Хрыстус Уваскрос!*
*Святло прыйшло. Хрыстус Уваскрос!*
*У дзверы стук. Хрыстус Уваскрос!*
*І звонаў гук. Хрыстус Уваскрос!*

Віншую пробашча парафіі Святога Язафата ў в. Канстанцінава кс. Генадзя Рэйшаля, былога пробашча кс. Паўла Самсонава, былых з нашай парафіі кс. Аляксея Асона, кс. Уладаса Пятрайціса, айцоў-францішканаў з Удзела а. Міраслава Капчэўскага, а. Яна Херніка, а. Вальдэмара Куяву са святам Уваскрасення Хрыстова.

*Ад імя вернікаў парафіі Св. Язафата*
***Вольга Пяткевіч***

# Лучшие из лучших



**15 марта у «Каритас» Витебской епархии день рождения: нам исполнилось 12 лет. Срок не большой и не маленький. За это время сделано немало, и мы не хотим останавливаться на достигнутом, поскольку в нашей помощи нуждаются ещё многие. Понимая это, у нас возникла идея открыть на территории Витебской епархии приходские «Каритас» с целью быстрого реагирования и расширения каритативной деятельности.**

**Антонина Полинская**

В 2010 г. в Витебской епархии мы начали воплощать нашу идею в жизнь.

Первым кандидатом на создание приходского «Каритас» выступил приход Святой Троицы в г. Глубоком. Ксёндз Мечислав Янчишин принял эту идею с интересом, и вскоре был создан первый приходской «Каритас», директором которого стала прихожанка Инна Войтехович. Она на протяжении многих лет являлась нашим преданным волонтёром.

Для эффективной работы была создана группа волонтёров из 18 человек.

Основной целью «Каритас» прихода Святой Троицы является милосердная любовь к ближнему, независимо от вероисповедания. За этот небольшой срок своей работы «Каритас» в Глубоком провёл ряд благотворительных акций: помощь детям из многодетных и малообеспеченных семей к началу учебного года, благотворительные и развлекательные мероприятия для детей из социального приюта, помощь одиноким престарелым и людям с ограниченными возможностями, проведение Рождественских и Пасхальных мероприятий, принятие и распределение гуманитарных грузов и ещё многие другие милосердные акции. Можно писать о многом, что сделано в этом молодом приходском «Каритас». Но очевидно одно: из семи открытых приходских «Каритас», «Каритас» в Глубоком является на сегодняшний день первым из открывшихся и лучшим.

В настоящее время, кроме «Каритас» в Глубоком, открыты и работают приходские Каритас в Миорах, Лынтупах, Орше, Чашниках, Браславе, Слободке. Это только первые шаги в развитии каритативной деятельности на территории Витебской епархии. Дальнейшая наша задача состоит не только в открытии новых приходских «Каритас», но и в укреплении и развитии уже существующих.



**На здымку:** дырэктар «Карытас» спадар Віталь Кульпекша і пробашч глыбоцкай парафіі ксёндз Мечыслаў Янчышын.

# Зварот

## да вернікаў Віцебскай дыяцэзіі дырэктара дабрачыннага каталіцкага таварыства "Карытас" з нагоды НАЦЫЯНАЛЬНАГА ДНЯ «CARITAS»

**Умілаваныя браты і сёстры!**

Міласэрнасць – гэта адна з формаў любові. Хто не мае міласэрнасці, той не любіць і гэтым самым парушае асноўную запаведзь Евангелля. «Калі хтосьці мае дастатак у свеце, — піша Ян Багаслоў, — і бачыць брата свайго ў нястачы, і закрывае перад ім сваё сэрца, то як любоў Божая можа жыць у ім?» *(1. Ян 3, 17).*

Іншая праява дэфіцыту міласэрнасці сёння — гэта недахоп часу. Усюды гаворыцца, што час — гэта грошы, але для хрысціяніна час — гэта любоў. У пагоні за кар'ерай, дабрабытам ці ведамі чалавек забываецца пра свой абавязак быць побач з жонкаю, мужам, дзецьмі, бацькамі.

Як каталікі мы павінны памятаць пра ўчынкі міласэрнасці для цела бліжняга і здзяйсняць іх, бо яны найлепш адлюстроўваюць наша стаўленне да блізкіх. Паўтараючы за Катэхізісам Каталіцкага Касцёла: галодных накарміць, спрагненых напаіць, голых адзець, падарожных прыняць у дом, хворых адведаць, вязняў суцешыць, памерлых пахаваць, мы ў той жа час чуем словы Хрыста: «Што вы зрабілі аднаму з гэтых братоў Маіх меншых, вы Мне зрабілі» *(Мц 25, 40).*

Шчыра дзякую ўсім вернікам Віцебшчыны за ахвяры на рахунак «Карытас», за спраўную і шчырую дапамогу ўсім, хто ў гэтым мае патрэбу. Няхай ваша дабрадзейства, дарагія браты і сёстры, стане парукай Божай Міласэрнасці для ўсіх Вас і Вашых сем'яў.

*Віталь Кульпекша,*
*дырэктар «Карытас» Віцебскай дыяцэзіі*

# Парафіяльны "Карытас" на Браслаўшчыне

**Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі пашырыла сваю структуру. У студзені парафіяльныя арганізацыі былі ўтвораны на Браслаўшчыне – у парафіях "Нараджэння Маці Божай" у Браславе і "Божага Провіду" ў Слабодцы. З першых дзён пасля ўстаноўчых сходаў актывісты руху заняліся практычнай дзейнасцю.**

**Тамара Пашкевіч**

У браслаўскай парафіі, напрыклад, праца пачалася з акцыі па аказанні дапамогі тым, хто па розных прычынах трапіў у складанае матэрыяльнае становішча. Такіх людзей устанаўлівалі шляхам апытання парафіян, карысталіся таксама інфармацыяй, якой падзяліліся з праўленнем кіраўнікі, сацыяльныя педагогі і выхавальнікі дашкольных і школьных устаноў. Прааналізаваўшы сабраныя звесткі, члены парафіяльнага "Карытаса" на чале з ксяндзом дэканам Лешэкам Вітвіцкім вырашылі перш-наперш падтрымаць шматдзетныя і няпоўныя малазабяспечаныя сем'і, інвалідаў і тых, хто трапіў у надзвычайную сітуацыю: застаўся без працы, перажыў пажар і інш. Такім чынам першай дабрачыннай акцыяй было ахоплена больш за 60 сем'яў, якія атрымалі прадуктовыя сацыяльныя наборы вагой у сярэднім каля 30 кілаграмаў.

Панесці такі падарунак "Карытаса" аднаму чалавеку было не па сіле. Таму па іх браслаўчане і жыхары навакольных вёсак прыходзілі сем'ямі, часам нават з маленькімі дзецьмі. У сям'і маці-гераіні Таццяны Сідарук іх восем, у Ніны Агапотавай і Маргарыты Гаспаран -- па сем, у Інэсы Лаўкевіч і Жаны Кажан – па шэсць. Гэты спіс можна яшчэ працягваць. Харчовую дапамогу ў час акцыі атрымалі 37 шматдзетных сем'яў.

Ёсць і іншыя сітуацыі. Напрыклад, у сям'і Леанарды Лаўрыновіч здарылася так, што бацькі і дзіця сталі інвалідамі, а выхаванец школы-інтэрната Сяргей Кетрыс застаўся без працы. Адным словам, падтрымка "Карытаса" для кожнага была важнай матэрыяльнай дапамогай, якая дазваляе з меншымі цяжкасцямі пераадолець матэрыяльныя цяжкасці. Таму людзі радаваліся важкасці харчовых набораў і шчыра дзякавалі фундатарам з дыяцэзіяльнага таварыства "Карытас" за выдаткаваныя грошы на правядзенне дабрачыннай акцыі, а таксама ксяндзу дэкану Л. Вітвіцкаму і тым, хто займаўся аказаннем дапамогі.

Зараз парафіяльнае таварыства плануе правядзенне новых дабрачынных спраў.

# О родителях и детях

**Создавая человека, Господь Бог вкладывает в каждого из нас свою мечту и свою любовь. Я думаю, что Он очень счастлив, когда мы оправдываем его мечту и становимся на тот путь, на который Он призвал. Путь для каждого разный: у кого-то монашества или священства, а для кого-то – жизнь в семье и воспитание детей.**

**Элла Калугина**

Вот об этом пути – о семье и о детях – я бы и хотела с вами поговорить. Поговорить о той любви, которую Господь Бог каждому вложил в наши сердца. Он всегда стучит в них, но мы настолько очерствели и огрубели, что не слышим этого стука.

Хочу спросить у детей, у взрослых детей: скажите, что вы помните из своего детства? Наверное, сильные руки отца, которые подхватывали и подбрасывали высоко-высоко в небо, или нежные и ласковые руки матери. Вспомните, кто помогал вам одеться, когда вы были маленькими, а пуговицы казались такими огромными. Сколько времени родители потратили на то, чтобы обучить вас есть, красиво и стильно одеваться, грамотно говорить, бороться с жизненными невзгодами. Кто помогал вам делать в этой жизни первые шаги?

И вот вы выросли, и наступил тот день, когда родители состарились. Теперь у отца не такие сильные руки, и мать уже не такая ловкая. Уже для них большая трудность одеться, им тяжело передвигаться. И совсем они не вписываются в вашу стильную гостиную. Вы себя оправдываете, часами убеждаете, что вы заняты, некогда со стариками возиться, говорить, убирать за ними. И лучше, если за ними будет ухаживать специально обученный персонал. И оформляете отца и мать в дом престарелых или на социальную койку. Но Господь Бог дал нам заповедь: "Почитайте отца своего и мать свою". Я, конечно, не знаю, о каком почитании вы думаете, когда мать захлёбывается слезами на социальной койке или рассказывает своим соседкам по палате, что вы умерли, а отец глотает скупые слёзы, никому ничего не говоря.



Поверьте, им много не надо. Вашим родителям нужна ваша любовь и забота. Им не нужно рассказывать часами о высоких технологиях. Поговорите с ними и расскажите, что хорошего с вами произошло за день, подайте кружку с чаем, позвоните и напомните, чтобы вовремя приняли лекарство. Подайте им вашу сильную руку и послужите им опорой. Помогите им жить дальше и закончить этот путь достойно. Проявите ваше терпение и доброту.

И, наконец, мне хочется задать вам последний вопрос: "Скажите, вы наверное воспитываете детей? И что им ответите, когда они зададут вопрос: где их бабушка с дедушкой? И как вы думаете, не воспользуются ли они вашим примером?". Может быть, всё-таки лучше закончить свой жизненный путь в окружении любящих людей, чем специально обученного персонала?

# У Божым доме



**Прыходзячы ў Божы дом, мы часта не задумваемся над тым, як сябе паводзім. Паспрабуем засяродзіць увагу на некаторых рэчах, якія дапамогуць нам знайсці еднасць з Панам Богам у святыні.**

Пры ўваходзе ў Касцёл вітаем Езуса ў Эўхарыстыі знакам крыжа. Гэта з'яўляецца сведчаннем нашай веры. Таму варта перахрысціцца паволі, а не так, як быццам адганяем мух. Да прыкладу, некаторыя вернікі пасля таго, як пахрысціцца, робяць крыжык з вялікага і ўказальнага пальцаў. Потым яго цалуюць, аддаючы такім чынам хвалу Святой Тройцы.

Укленчым перад Найсвяцейшым Сакрамантам. Укленчым аддана, станем на калені. Каб не было незразумелых рухаў нагамі, падобных да "дзіўных танцаў". Калі ж здароўе не дазваляе стаць на калені, схілім галаву на хвалу Божую.

Напамін выключыць тэлефон бачым амаль у кожнай святыні перад уваходам. Звонячы, мабільны адцягвае ўвагу людзей і святара ад малітвы. Размовы як па тэлефоне, так і з суседам або суседкай могуць перашкодзіць чалавеку застацца сам-насам з Богам.

Сабе ж самі можам перарваць малітву, калі адварочваемся, гледзячы, хто прыйшоў, або разглядаем людзей, не слухаем Слова Божае, казанне. Падчас Літургіі стараемся застацца толькі з Хрыстом. Асабліва звернем увагу на думкі. Няхай яны застаюцца толькі ў святыні з Панам Богам, а не па-за яе межамі.

Як мага больш імкнёмся ўдзельнічаць у Святой Імшы: чытаем чытанні, слухаем казанні, спяваем.

Прыходзім да Хрыста, таму адзенне выбіраем сціплае. Пажадана не грукаць абцасамі, гэта парушае цішыню ў Касцёле.

Такія простыя рэчы дапамогуць нам знайсці яшчэ больш еднасці з Панам Богам.

*Ірына Грэйць*

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**15 красавіка 2012 г. Ян 20, 18-31**

Езус з'явіўся да сваіх вучняў, прайшоўшы праз зачыненыя дзверы. Прынёс ім свае дары, якія ёсць плёнам змёртвыхпаўстання. Дае ім Святога Духа. Паміж плёнаў змёртвыхпаўстання Езуса – дар адпускання грахоў. Гэта з ран Езуса, з Яго пасхальнай перамогі бярэ пачатак дар прабачэння грахоў. Асабліва выразна гэта гучыць сёння – у нядзелю Божай Міласэрнасці. Езус асабіста паклапаціўся пра веру Тамаша. Пра тое, каб быў вернікам, а не атэістам. Трэба, каб кожны чалавек пагрузіў сваё сэрца і свае думкі ў раны Езуса, як Тамаш свае пальцы. Вера ў Езуса, Які прыносіць нам жыццё, – гэта плён Пасхі.

*– Ці хачу жыць у свабодзе Божага дзіцяці?*

*– А можа, хачу вярнуцца да свайго "штодзённага звыклага" грэху?*

*– Ці не планую пасля заканчэння пасхальных святаў зноў адкінуць Езуса?*

*– Ці веру, што Ён мае ўладу і хоча вырваць мяне з цемры маіх грахоў?*

*– Ці падчас пасхальных святаў узрушыўся тым, што Ён зрабіў для мяне?*

*– Ці меў час і жаданне пра гэта падумаць, паразмаўляць з Ім, падзякаваць Яму?*

*– А можа, трымаюся на адлегласці ад Езуса і баюся ўкласці пальцы ў Яго прабітыя раны?*

*– Можа, не хачу падумаць пра тое, што Яго збаўленне датычыць і мяне?*

*– Можа, не хачу адкінуць грэх і жыць у любові?*

*– Можа, ашукваю сябе, думаючы, што веру, але не хачу Яму даверыцца?*

*– Ці змагу несці надзею, якая ёсць у Езусе, іншым?*

**22 красавіка 2012 г. Лк 24, 35-48**

Езус прыйшоў да сваіх вучняў. І гэта Ён, Яго Асоба – найважнейшыя. Ніякія сумненні і недагаворанасці не могуць перашкодзіць у выкананні Яго справы. Гэта Ён быў прадказаны, Ён быў паміж апосталамі, Ён – памёр і Ён – змёртвыхпаўстаў. Праўдзівы і Жывы. Ён асвяціў іх розум, каб зразумелі сэнс усіх здарэнняў. А ўсё гэта для таго, каб абвяшчаць пакаянне і адпушчэнне грахоў усім народам у Яго Імя. Вучні павінны сведчыць пра Езуса і Яго справы. Не наш грэх, не наша любоў і не мы самі з'яўляемся крыніцай жыцця. У цэнтры збаўлення – Езус. Вучань – гэта той, для каго Езус з'яўляецца Панам. Вучань так павінен сведчыць, каб Езус быў у цэнтры гэтага сведчання.

*– Ці знаходзіцца Езус у цэнтры майго жыцця?*

*– А магчыма, вельмі кручуся вакол сябе?*

*– Якія грахі, справы, пачуцці засланяюць Езуса ў маім жыцці?*

*– Ці яднаю гэтыя справы з Езусам?*

*– Ці размаўляю пра іх з Ім?*

*– Ці аддаю іх Яму?*

*– Ці гляджу на свет і на жыццё "асвечаным розумам", бачачы Божыя справы?*

*– А можа, гляджу па-зямному, без Езуса?*

*– Як сведчу пра Езуса?*

*– Ці не знаходзіцца Ён на другім плане?*

*– Ці ўмею абвяшчаць Жывога Езуса або толькі светапогляд?*

*– Што зраблю, каб наблізіцца да Езуса?*

**29 красавіка 2012 г. Ян 10, 11-18**

Езус клапоціцца пра нас. Абараняе нас ад небяспекі. Два вялікія клыкі, якія раняць чалавека, – гэта грэх і смерць. Яны дзякуючы змаганню Езуса зламаныя. На Яго баку, руках і нагах – адбіткі гэтага змагання. Ён Добры Пастыр. Добра нас ведае і хоча давесці да еднасці з Айцом, у якой Сам прымае ўдзел. Ён Сам добраахвотна пайшоў на крыж, каб змагацца за нас. І Ён вырваў нас з кіпцюроў зла, бо мае ўладу над жыццём і смерцю.

*– Ці памятаю, што Езус клапоціцца пра мяне?*

*– Ці памятаю, што Ён любіць мяне аж да смерці?*

*– А можа, праходжу абыякава каля вялікай любові Езуса?*

*– Ці хачу быць побач з Вялікім Збаўцам?*

*– Ці ў штодзённых справах і змаганнях майго жыцця стараюся стаць плячо ў плячо з Езусам?*

*– А можа, разлічваю на свае сілы?*

*– Ці змагаюся за выратаванне маіх братоў, якія не ведаюць Езуса?*

*– Што раблю, каб данесці да іх праўду пра Хрыста-Збаўцу?*

*– Які я пастыр для тых, каго Бог даручыў мне? Для дзяцей, жонкі, мужа? Ці змагаюся за іх, як Езус, і разам з Езусам?*

**6 мая 2012 г. Ян 15, 1-8**

Пасхальная перамога Езуса над смерцю і грэхам з'яўляецца заклікам. Яна заклікае нас нараджаць любоў. Мы ведаем, што толькі Ён – крыніца нашай любові і нашага духоўнага багацця. Бог хоча, каб мы прыносілі плён, і ачышчае ў нас тое, што перашкаджае гэтай плённасці. Найбольш трэба клапаціцца пра тое, каб заставацца ў Езусе. Тады Ён ёсць у нас. Гэта еднасць з Ім – прычына нашай плённасці. Не мы ёсць найважнейшыя. І не мы самі па сабе прыносім плён. Гэта наша сувязь з Езусам – крыніца нашай плённасці.

*– Ці аддаю свой грэх Езусу?*

*– Ці дазваляю Яму вызваляць мяне з грэху?*

*– Ці аддаю сваю слабую чалавечую натуру – хваробу, старасць – Езусу?*

*– Ці аддаю Езусу маю недасканаласць?*

*– А можа, думаю, што дапамагу сабе сам, без Езуса?*

*– Ці не спрабую сам справіцца са сваім грахом?*

*– Можа, спрабую любіць і рабіць дабро без еднасці з Езусам?*

*– Ці памятаю, што Ён ёсць крыніца маёй сілы?*

*– Як выглядае мая сувязь з Ім?*

*– Якой ёсць мая малітва?*

*– Якая споведзь?*

*– Як слухаю Яго слова?*

*– Ці разам з Ім перамагаю жыццёвыя перашкоды?*

Рубрыку вядзе
**кс. Павел Кнурэк**

# Школа духоўнай фармацыі
# Сузіранне ў фарбах
## Ікона ў хрысціянскай духоўнасці
## Браслаў 18 - 20 мая

**■ЯКУЮ РОЛЮ АДЫГРЫВАЮЦЬ СВЯТЫЯ АБРАЗЫ Ў НАШАЙ ВЕРЫ?**
**■ЦІ ГЭТА ТОЛЬКІ ЎПРЫГОЖАННЕ НАШЫХ СВЯТЫНЬ І КВАТЭР?**
**■ШТО ХАВАЕЦЦА ЗА ДУХОЎНАЙ СПАДЧЫНАЙ?**

Праводзіць: протапрэсвітар Зміцер Грышан,
настаяцель грэка-каталіцкай парафіі ў Віцебску.

■Сустрэча распачынаецца ў пятніцу а 15-ай гадзіне і заканчваецца абедам у нядзелю.
■Просім узяць: нататнік, пасцельную бялізну (спальнік) і Біблію.
■Падчас прапанаванай сустрэчы хочам дапамагчы ў паглыбленні веры і хрысціянскай сталасці.
■Сустрэча адбываецца ў атмасферы маўчання, пустыні і медытацыі.
■Падчас сустрэчы можна прыступіць да споведзі і паразмаўляць з духоўным кіраўніком.
■Колькасць месцаў абмежаваная, таму вельмі просім загадзя паведаміць пра жаданне ўдзельнічаць у сустрэчы.

КАНТАКТ: с. Наталля SJE: тэл. маб. +375336775081 (мтс); e-mail: sjeby@mail.ru; кс. Тадэвуш SDS: тэл. маб. +375295926569 (мтс); e-mail: sdsby@mail.ru

МАЛІТОЎНАЕ ЧУВАННЕ МОЛАДЗІ
# РАДАСЦЬ
Радуйцеся ў Госпадзе заўсёды!
## Друя, 28-29.04.2012

Галоўная тэма, над якой будзем разважаць:
Сапраўдная радасць, як яе атрымаць і захоўваць.
Калі хочаш пераЖыць радасць ад сустрэчы з Богам
і другім чалавекам - прыедзь у Друю!

+ КАНЦЭРТ
Гурт «НЕБАСХІЛ»

МОЛАДЗЬ ДЛЯ ХРЫСТА
Падрабязная інфармацыя:
с. Наталля SJE +375 (33) 6775081 sje.by@mail.ru
кс. Тадэвуш SDS +375 (29) 5926569 sdsby@list.ru

Крыжаванка — пытанні:
Арцыбіскуп Мінска-Магілёўскі
Цэнтр дэканата, Віцебская дыяцэзія
Падарунак
Свята Уваскрасення Хрыста
Навука прапаведвання
Свечка, асвечаная 2 лютага
Туды ідуць пілігрымы
Святар у праваслаўі
Ён вучыць рэлігіі
Наступнік апосталаў
Святы алей
Нявольнік

## Са святам Вялікадня!

Віншуем нашага дарагога ксяндза-пробашча Андрэя Аніскевіча са святам Вялікадня. Ад шчырага сэрца жадаем яму моцнага здароўя, поспехаў у святарскай працы, Любові Божай!

Дзякуем Пану Богу, што кс. Андрэй з намі. Яго стараннямі, яго пільнай працай наш касцёл становіцца яшчэ больш прыгожым, з кожным днём наша парафія павялічваецца, да нас прыходзіць усё больш моладзі.

Вельмі цэнім дабрыню нашага святара. Сардэчна дзякуем за пілігрымкі, якія арганізаваў для моладзі і дарослых. Асабліва ўдзячныя за апошнюю пілігрымку ў Італію да Св. Антонія Падуанскага.

***Парафіяне касцёла Св. Казіміра ў г. Лепелі***

## Благодарность

**(посвящается кс. Андрею Анискевичу, настоятелю лепельского прихода)**

*Жизнь – это путь. Я не устану повторять:*
*Тот путь, что мы должны проделать,*
*И ровных нам дорог не выбирать,*
*Но всё осилить можем мы надеясь.*
*Любовь, надежда, вера и добро –*
*Вот что сплотило нас, и дан был шанс увидеть,*
*Как Провиденье Божье, Бога ремесло*
*Несёт в сердца людей неведомую силу.*
*Мы силой веры, с тяжестью в ногах,*
*Слегка уставшие, дорогой утомлённые*
*Познать сумели красоту в местах,*
*Где нету зла, где счастьем всё наполнено.*
*Там воздух чист, прозрачны мысли и мечты*
*И вековым спокойствием проложены дороги.*
*И жаль, что всё ж оттуда нам пришлось уйти,*
*Но с шумом горных рек вбежим в родные нам пороги.*
*Безмерно благодарны нашему Отцу*
*За то, что он творил для нас всё это чудо.*
*И лёгким почерком вписал он в каждую судьбу,*
*Что жизнь дана нам, чтобы счастье дарить людям.*

***Ксенофонт Кунчевский***

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі
**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне «Віцебская дыяцэзія Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ»
**Выдавец:** рэлігійная місія «Дабрачыннае каталіцкае таварыства «Карытас» Віцебскай дыяцэзіі Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ
**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога, Таццяна Смоткіна
Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Каталіцкі Веснік», перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня», г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 2999
Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 2500 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 12.04.2012 г. у 07.39
**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211730, вул. Кірава, д.6, г.п. Бягомль, Докшыцкі р-н, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(02157)3-30-44
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
ISSN 2224-9621


Наш падпісны індэкс 63783
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі РБ